ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

23 студзеня 1998 г. № 4/3932 Кошт 4 000 руб.





Калі рэжысёр атоесніўся з тэатральным богам, — у стварэнні сцэнічных пРастораў і сусветаў, — дык хто ёсць мастак, які арэчаўляе ўяўленае?

...Народны мастак Беларусі Барыс ГЕРЛАВАН чыніць гаспадарку сцэнічных сусветаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; сусветаў тых вынікнула ды ўвасобілася ўжо больш як сто... На спектаклі "Князь Вітаўт", паводле рэжысёра Валерыя Раеўскага, яны з Герлаванам дасягнулі апагею ў спалучэнні хараства і строгасці...

Шасцідзесяцігоддзе Герлавана, якое прыпала на 25 снежня, адзначалі ў тэатры 15 студзеня — спектаклем "Князь Вітаўт". Сам кароль Ягайла падкрэсліў урачыстасць падзеі, усклаўшы на мастакоўскія плечы чырвань сваёй мантыі. Сам князь Вітаўт, нечакана падхапіўшы пададзены мікрафон, абвясціў пра рэдкае тэатральнае свята, даражэйшае за прэм'еру... Свята, якое спалучыла хараство кветак і віншаванняў, строгасць абвесткі пра ганараванне медалём Францішка Скарыны і размаітасць глядацкага захаплення, — найбольш важнага для самога мастака.

**Ж. Л.**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

НАДЗЁННАЕ

# Мокры дажджу не баіцца

***Пра што сёння гавораць людзі на рабоце, дома, на вуліцы, у транспарце? Не, ужо — не пра надвор'е: студзень паспеў прывучыць людзей, што ён — сакавік. Людзі ж сёння гавораць пра... падатковыя дэкларацыі.***

З першага дня новага года пачаўся адлік часу, які адпушчаны грамадзянам Беларусі на прадстаўленне ў падатковыя органы па месцы жыхарства дэкларацый аб сукупным гадавым даходзе за мінулы год. Часу ж адпушчана няшмат — да 15 лютага. Не паспееш ці ўхілішся ад падачы дэкларацыі — заплаціш адміністрацыйны штраф ад дзвюх да пяці мінімалак. А не заплоціш да 15 сакавіка даплату да сумы падатку, можаш быць пакараны выплатай пені — 10 працэнтаў ад сумы даплаты падатку за кожны дзень пратэрміноўкі ці проста саму даплату могуць налічыць у памеры 150 працэнтаў.

Дэкларацыя аб сукупным гадавым даходзе падаецца грамадзянамі, якія маюць даходы з дзвюх ці больш крыніц. Гэта могуць быць даходы на асноўным месцы працы плюс даходы па дагаворах падраду, даходы з-за мяжы, па аперацыях з каштоўнымі паперамі і г.д. Калі грамадзянін адчувае, што абавязаны падаць дэкларацыю, дык павінен ведаць, што ў ёй належыць адлюстраваць даходы свае асабістыя, без уліку членаў сям'і. Калі твой сукупны гадавы даход меншы за 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў, ад цябе дэкларацыя не патрабуецца. Памер падатку залежыць ад сумы даходаў. Пры даходзе да згаданых 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў бярэцца падатак у суме 9 працэнтаў. Гэта — мінімальны падатак. Максімальная стаўка падатку — 50 працэнтаў — бярэцца з даходаў, якія перавышаюць 135 мільёнаў 800 тысяч рублёў. Даходы да 58 мільёнаў 200 тысяч рублёў абкладаюцца падаткам у 25 працэнтаў. Дарэчы, у Расіі працэнтныя стаўкі падатку ніжэйшыя, чым у нас, там максімальны падатак складае 35 працэнтаў ад сумы даходаў.

Як бачым, колішні абыходкавы прынцып "хочаш жыць — умей круціцца" сёння можа вылезці бокам. Пакруціцца можна, але — ці выгадна гэта будзе?

Не трэба падаваць дэкларацыі асобам, якія на працягу года атрымлівалі даход з аднаго месца працы, а таксама пенсіянерам, студэнтам і многім іншым грамадзянам, чые даходы прыкладна таго ж характару і ўзроўню. Пра гэта ў друку пісалася нямала. Тым не менш, пытанні застаюцца. У тым ліку, у чытачоў і аўтараў "ЛіМа". Скажам, такое пытанне: як будуць падаваць дэкларацыі творчыя работнікі — журналісты, пісьменнікі, мастакі, артысты? Характар працы іх і адпаведна заробкі — адметныя. У пошуку адказу я завітала да начальніка аддзела дэкларавання даходаў і маёмасці фізічных асоб Мінскай гарадской падатковай інспекцыі Наталлі ДАВІДОВІЧ.

— Згодна з артыкулам 20 Закона "Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год", — патлумачыла Наталля Віктараўна, — грамадзяне, якія атрымалі даходы з некалькіх крыніц выплаты на працягу 1997 года, абавязаны прадставіць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе. У гэты сукупны даход уваходзяць усе даходы па асноўным месцы працы, у тым ліку зарплата, матэрыяльная дапамога і іншыя выплаты, нават падарункі, калі кошт іх перавышае 4 мільёны рублёў. Пра гэта бухгалтэрыя па месцы работы грамадзяніна павінна выдаць яму даведку па форме 10. У другім раздзеле дэкларацыі паказваюцца даходы, атрыманыя не па асноўным месцы працы. Вось тут мастакі, кампазітары, журналісты, спевакі, пісьменнікі і г.д. павінны паказаць свае даходы, атрыманыя з розных іншых крыніц. Маюцца на ўвазе, вядома ж, іх ганарары. Творца павінен звярнуцца па даведкі ў адпаведныя бухгалтэрыі тых установаў і арганізацый, праз якія ён рэалізоўваў на працягу года свае творы ці здольнасці. Хоць, само сабою, у падатковую інспекцыю па месцы жыхарства сцякаецца ўся інфармацыя аб налічаных даходах і ўтрыманых падатках грамадзян не па асноўных месцах іх працы.

**— Выбачайце, навошта ж тады прымушаць людзей збіраць гэтыя даведкі?**

— На жаль, ёсць такая неабходнасць. Суб'екты гаспадарання, скажам, павінны прадставіць нам усе звесткі да 1 лютага. На жаль, не ўсе яны паводзяць сябе добрапрыстойна. Колькасць аддзелаў, якія збіраюць дэкларацыі, невялікая, у моры інфармацыі знайсці дадзеныя па кожным не так і проста. Таму й пажадана, каб кожны грамадзянін, у дадзеным выпадку — творца, валодаў гэтай інфармацыяй і падаваў яе ў падатковую інспекцыю. Калі, скажам, хто-небудзь атрымаў падарунак, і калі кошт яго, як я ўжо казала, перавышае 20 мінімальных зарплат, а ў снежні мінулага года гэта складала 4 мільёны рублёў, дык і кошт падарунка ўключаецца ў дэкларацыю. Не бярэцца падатак з Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь, а таксама з міжнародных прэмій. А вось даходы, атрыманыя з-за мяжы, абавязкова трэба ўключаць у дэкларацыю і плаціць з іх падаткі.

**— Ці павінен запаўняць дэкларацыю журналіст, які атрымліваў аўтарскі ганарар па асноўным месцы працы?**

— Пасля заканчэння года журналіст абавязаны падаць дэкларацыю для перападліку падатку, бо падатак з зарплаты яму налічваюць па артыкуле 8, а падатак з ганарара — па артыкуле 14, і атрымліваецца, што крыніцы падаткаабкладання розныя. Цяпер трэба ўзяць з яго падатак па гадавой табліцы, і ў сувязі з тым, што стаўка падатку прагрэсіруе, пэўную суму журналіст абавязаны даплаціць.

І яшчэ пра аўтарскія ўзнагароджанні. Для аўтараў рознага профілю прадугледжана зняццё з падаткаабкладальнага даходу сумы выдаткаў, якая пацверджана дакументальна. Калі, скажам, мастак напісаў карціну і прадаў яе, але ў яго ёсць копія чэка, што ён выдаткаваў пэўныя сумы на фарбы, пэндзлі, палатно, раму і г.д., то гэтыя выдаткі вылічваюцца з сумы даходу.

**— На прамілы Бог, хто збіраў і захоўваў гэтыя чэкі?!.**

— Вядома, пакуль што мала было тлумачэнняў пра ўсё гэта, але ж людзі, тым больш — адукаваныя, павінны былі быць гатовыя да новага жыцця. Ва ўсім свеце людзі падаюць дэкларацыі аб сукупным даходзе. Гэта прыйшло і да нас. У падатковай інспекцыі грамадзянін атрымлівае свой уліковы нумар падаткаплацельшчыка, які надалей будзе своеасаблівай яго візітнай карткай.

**— Такое пытанне, Наталля Віктараўна. Уявім сітуацыю. Малады журналіст працуе ў газеце, атрымлівае зарплату і ганарар. У сям'і, якая складаецца з 4-х чалавек, ён працуе адзін — жонка ў дэкрэтным адпачынку, старэйшы сын — школьнік. Сям'я за рысай беднасці. Ці павінен ён даплачваць падатак, калі ён будзе налічаны ў адпаведнасці з дэкларацыяй?**

— Ва ўсялякім разе дэкларацыю ён павінен падаць. Пражытачны мінімум тут не ўлічваецца, гэта не прадугледжана законам.

Гаворка наша на гэтым скончылася, а пытанні — засталіся. Каму спатрэбілася гэтая ўсяленская неразбярыха? Навошта браць яшчэ адзін падатак з нейкага сукупнага даходу, калі ён ужо быў узяты штомесячна? Гэта што, двайное падаткаабкладанне? Далей. У цывілізаваным свеце не абкладаецца падаткам даход, які не перавышае кошту спажывецкай карзіны. А ў нас жа і без таго 80 працэнтаў насельніцтва жыве за рысай беднасці, а падатак павінны плаціць і ўсе гэтыя жабракі? Сапраўды, дзіўныя справы твае, Госпадзе...

**Марыя МІХАЙЛАВА**

З'ЕЗДЫ

# У XXI стагоддзе — з Лучанком

Учора быў заключны дзень XII з'езда беларускіх кампазітараў: дзве канцэртныя праграмы, дыскусія за "круглым сталом"... Тыдзень доўжыліся ў Мінску з'ездаўскія імпрэзы, што далі магчымасць прафесіянікам збольшага агледзець-абмеркаваць творчыя набыткі калег, пазначыць перспектыву далейшага супольнага жыцця ў кампазітарскім саюзе. А для публікі была магчымасць апынуцца ў атмасферы фестывалю сучаснай беларускай музыкі, пабачыць твары ейных стваральнікаў, адкрыць для сябе новыя імёны ў выканаўчым мастацтве, азірнуцца на традыцыі.

Дарэчы, пра традыцыі. З'езд адкрыўся праграмай, у якой суседнічала добра вядомая музыка двух шаноўных майстроў — патрыярха беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова і яго маскоўскага калегі, госця з'езда Ціхана Хрэннікава. Гэтае адмысловае "вяртанне да вытокаў" дазволіла асэнсаваць асновы колішняга савецкага мастацтва і ярчэй адчуць разнастайнасць досведаў новых творчых пакаленняў.

Не парушылі дэлегаты з'езда традыцыю, выбіраючы лідэра свайго саюза. 17 гадоў таму на пасаду старшыні ўпершыню быў абраны Ігар Лучанок. Міналі з'езды, мянялася сітуацыя ў краіне, у творчых суполках, — нязменным кіраўніком БСК заставаўся І. Лучанок. І сёлета, насуперак "калямузычным прагнозам", зноў выбралі яго. Альтэрнатыўную кандыдатуру нават не прапаноўвалі. У выбарчай скрыні аказалася толькі тры бюлетэні з выкрасленым прозвішчам: 79 дэлегатаў прагаласавалі "за".

Такім чынам, у новае стагоддзе Беларускі саюз кампазітараў прыйдзе на чале з народным артыстам СССР Ігарам Лучанком. Ну, а пра справы арганізацыйныя ды творчыя, абгавораныя падчас XII з'езда, "ЛіМ" яшчэ раскажа...

**С. Б.**



*На здымку: народны артыст Беларусі Анатоль БАГАТЫРОЎ дзякуе публіцы і выканаўцам сваёй музыкі.*

*Фота К. ДРОБАВА*

З НАГОДЫ

# "Мыльная" сенсацыя

Не сакрэт, што Беларускае тэлебачанне не карыстаецца вялікай папулярнасцю ў гледачоў. Выключэнне — 2-3 праграмы. Колькі ні рэфармавалі ТБ, вынікаў не відаць. Што робіцца звычайна для павышэння рэйтынгу тэлеканала? Закупляюцца новыя фільмы (пераважна шматсерыйныя), паляпшаецца якасць інфармацыйных праграм, актывізуецца пошук сенсацый і г.д. Ужо тры тыдні запар мы маем магчымасць назіраць, як мужна змагаецца за сімпатыі гледачоў, без перабольшвання, "першы твар" айчыннага экрана Аляксандр Зімоўскі. Яго аўтарская праграма "Рэзананс" ужо стала нейкім дэтэктыўным серыялам. Журналісцкае расследаванне пад назвай "Стратэгічны план" — сапраўдная сенсацыя.

Для тых, хто не глядзеў у нядзелю тэлевізар, кароткі змест папярэдніх серый. У рэдакцыю АТН прыходзіць пакрыўджаны на сваіх калег беларускі апазіцыянер. Імя яго гледачам невядома. Палітык прыйшоў не з пустымі рукамі: хто інакш пусціў бы яго ў будынак дзяржаўнага тэлебачання? Прынёс апазіцыянер каштоўныя паперы. Не, гэта не акцыі якога-небудзь прадпрыемства і не спіс грантаатрымальнікаў фонду Сораса. Гэта стратэгічны план беларускай апазіцыі па звяржэнні прэзідэнта краіны. План просты: сёння невядомыя людзі з Захаду выдаткоўваюць прэзідэнцкім апанентам суму ў 32 мільёны долараў, а праз год у Беларусі ўсталёўваецца новая ўлада. Пры гэтым, як і належыць, канкрэтныя прозвішчы спонсараў (заказчыкаў злачынстваў) адсутнічаюць, вядомы толькі выканаўцы. Гэта ўсім знаёмыя функцыянеры "злачыннага сіндыката" БНФ — З. Пазняк, В. Сіўчык, В. Вячорка і кіраўніцтва "маліны" — Вярхоўнага Савета — С. Шарэцкі, Г. Карпенка і іншыя "банкруты ад палітыкі". Выконваць ролю масоўкі (мітынгі, шэсці, пікеты, канферэнцыі і г.д.) будзе студэнцтва, творчая інтэлігенцыя, прафсаюзы. Вядома ж, за грошы. Дарэчы, як падкрэсліў Зімоўскі, "тут няма нічога дзіўнага — удзел у апазіцыйных акцыях і раней шчодра аплачваўся". Адсюль пытанне: чаму ж тады звычайна так мала жадаючых падзарабіць гэткім чынам і ці варта кідаць грошы ў такую "бесперспектыўную" справу?

Пасля першага эфіру той-сёй зацікавіўся наступным: за што атрымліваюць зарплату супрацоўнікі шматлікіх спецслужбаў краіны, калі інфармацыю пра плануемы пераварот да грамадства даводзяць журналісты? У адказ на гэта сакратар Савета бяспекі В. Шэйман у інтэрв'ю БТ дае зразумець, што ведае значна больш, чым агучанае ў "Рэзанансе", і будзе паступова даводзіць астатнюю інфармацыю да грамадства. Пры гэтым ён цытуе тыя ж паперы, што і Зімоўскі. Складваецца ўражанне ўзгодненасці дзеянняў вядучага праграмы і кіраўніка Савета бяспекі. На карысць гэтай версіі працуе і абяцанне А. Зімоўскага не пакідаць тэмы "змовы апазіцыі", дадзенае ім яшчэ да размовы з В. Шэйманам. Улічваючы вышэйсказанае, неяк не ўпісваецца ў агульную сэнсавую лінію здраднік-апазіцыянер. Што яшчэ здзіўляе, дык гэта шчырасць памочніка прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы: ён нават не хавае, што змест усіх фактаў, якія прыходзяць у штаб-кватэру фронта, тэлефонныя размовы яго членаў добравядомыя "органам".

Любыя, нават бязглуздыя, абвінавачванні патрабуюць доказаў. "Іх ролю выконваюць нейкія "дакументы", набраныя на камп'ютэры, без подпісаў і пячатак. Атрымаць такую "сенсацыю" няцяжка: дастаткова валодаць асновамі інфарматыкі. Пры гэтым адны "дакументы" на беларускай мове, іншыя на рускай (даклад "Состояние негосударственных СМИ в РБ"). Калі адрасат адзін і той жа, а па словах Зімоўскага, гэта Кангрэс ЗША, чаму спатрэбілася галоўны "дакумент" (стратэгічны план) пісаць пабеларуску? Чаму ўсе неабходныя паперы не скласці на ангельскай мове, больш звыклай для ўспрымання за межамі СНД? Між іншым, зрабіць гэта можна было б хутка: у БНФ дастаткова прафесійных перакладчыкаў. Мяркую, беларуская мова выкарыстоўваецца тут з мэтай уздзеяння на электарат, які мысліць стэрэатыпамі. Маўляў, бэнээфаўцы не здольны пісаць парускy ці па-ангельску, толькі на "тарашкевіцы". Да таго ж, як прадэманстраваць масавай аўдыторыі паперы на замежнай мове?

А вось яшчэ цікавы момант. В. Шэйман перад відэакамерай цытуе нейкі зварот Зянона Пазняка да сваіх паплечнікаў з БНФ і кажа літаральна наступнае: "Послание было на белорусском языке, я процитирую на русском". Чаму? Можа, кіраўніку СБ цяжка "чытаць на роднай мове"? Дык не, у тым жа інтэрв'ю ён цытуе іншых беларускамоўных людзей і нічога. Калі Зянон Станіслававіч пасля гэтай "агаворкі" Шэймана пажадае аспрэчыць аўтарства таго выказвання, яго словы будуць гучаць больш праўдападобна. Падстава для звароту ў суд ёсць і ў члена сойма І. Саверчанкі, якому ўсемагутнае ведамства прыпісвае ролю адказнага за размеркаванне ў Мінску "буржуйскіх" грошай. Шкада толькі, што не станем мы сведкамі гэтага судовага разбіральніцтва. Заяву апазіцыянера хутчэй за ўсё пакінуць без увагі...

Невыпадкова, што "змоўшчыкі" (хто б яны ні былі) кідаюць свой позірк у бок недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Менавіта СМІ прысвечаны адзін з дакладаў, прадэманстраваных па ТБ. Калі ўявіць сабе, што змова сапраўды існуе, то, натуральна, патрэбны і "агітатары-прапагандысты". Але той, хто ведае сапраўднае становішча на рынку незалежнай прэсы, разумее розніцу паміж "Свабодай" і "Именем", "Свободными новостями" і "Нашай Нівай". Гэта толькі А. Зімоўскі можа расказваць пра міфічныя "подконтрольные оппозиции СМИ". Няма ніякай агульнай лініі ў апазіцыйных выданнях. Ужо з прычыны неаднароднасці самой апазіцыі. Той жа, хто лічыць, што метады барацьбы з уладамі аграрыя С. Шарэцкага аднолькавыя з метадамі таго ж В.Сіўчыка, няхай успомняць выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета пасля "Чарнобыльскага шляху-96".

У выпадку, калі "стратэгічны план" нарадзіўся ў нетрах беларускіх спецслужбаў, — гэта чарговы званочак для ўсіх нязгодных, і ў першую чаргу журналістаў. Новы закон аб друку — толькі першы крок, і ў далейшым можа здарыцца так, што "Свабода" не стане "Навінамі", а збітыя міліцыяй журналісты з ахвяраў ператворацца ў злачынцаў, і г.д.

А падыходы да аб'ектыўнасці ў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ розныя. Вось, напрыклад, якія яны ў вядучага аналітычнай праграмы "Рэзананс". Першы эфір: "Мы готовы получить соответствующий комментарий от поименованных в бизнес-плане лиц и организаций". Другі эфір: "Никто не изъявил желания". Гэта значыць: "не жадаеце апраўдвацца — хадзіце ў бру дзе". Быццам самому звяртацца па каментарый — не яго журналісцкі абавязак. Дарэчы, калі з газетных каментарыяў палітыкаў Зімоўскі выкарыстоўвае ў эфіры два-тры словы, становіцца зразумелым, чаму людзі імкнуцца мець зносіны з іншымі прадстаўнікамі "чацвёртай улады".

Серыялы, або, як іх яшчэ называюць, "мыльныя оперы", на жаль, карыстаюцца вялікім попытам у постсавецкіх краінах. Прымітыўны сюжэт, кепская пастаноўка, бяздарная гульня акцёраў — вось тое, што адрознівае іх ад сапраўднага кіно. Майстэрства ў серыялах столькі ж, колькі праўды ў "Рэзанансе". Горка ўсведамляць, што наперадзе яшчэ шмат серый. Але канец абавязкова будзе. Трэба толькі дачакацца...

**Вадзім ДОЎНАР**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Запісы розных часоў

## ЯК ПРАКЛЯЦЦЕ НЕЙКАЕ...

За доўгае жыццё ў літаратуры мне давялося ў складзе пісьменніцкіх дэлегацый пабываць у некаторых рэспубліках Саюза. У Літве быў, у Эстоніі, у Азербайджане, у Арменіі, у Грузіі, у Таджыкістане... І дзе ні быў — галоўнае ўражанне, з якім вяртаўся дадому, было адно і тое ж: усё-такі ў іх сітуацыя з роднай мовай непараўнана лепшая, чым у нас, у Беларусі. І не толькі з мовай. З нацыянальнай культурай, а гістарычнай памяццю народа, з захаваннем сваіх традыцый і звычаяў... Кожны раз глядзеў, параўноўваў, зайздросціў, вядома, — і ад крыўды заходзілася душа. Чаму гэта нам так не шанцуе на кіраўнікоў? Проста як пракляцце нейкае! Усюды першы сакратар ЦК гаворыць са сваім народам на мове народа, і клапоціцца пра нацыянальную школу, пра выданне кніг на роднай мове, пра нацыянальны тэатр... А ў нас... Каб хоць адзін за ўвесь пасляваенны час "апусціўся" да гэтага! Каб хоць адзін палічыў сваім святым абавязкам — бараніць і адстойваць беларускую мову, беларускую школу, беларускую нацыянальную культуру, праўдзівую гісторыю народа... Каб хоць адзін зразумеў, што без гэтага ты будзеш для творчай інтэлігенцыі рэспублікі чужаком і ў рэшце рэшт застанешся чужаком у нацыянальнай гісторыі, нашчадкі добрым словам цябе не ўспомняць, дзякуй не скажуць. А за што ж дзякаваць? За тое, што пад тваім "мудрым" кіраўніцтвам былі зліквідаваны апошнія беларускія школы ў гарадах і мястэчках рэспублікі? За тое, што нават "Калгасную праўду", разлічаную на людзей вёскі, перавёў на рускую мову? За тое, што не дазволіў Міхасю Забэйду вярнуцца ў Беларусь, каб ён вучыў тут маладых спевакоў майстэрству? Удумаемся толькі: найлепшы, найталенавіцейшы за ўсю гісторыю Беларусі спявак хацеў вярнуцца на Радзіму і ахвяраваць свае сілы на развіццё нацыянальнага пеўчага мастацтва. І што ж? Радзіма адрынула яго. Не прыняла. Абышлася з ім не як маці, а як злая мачыха.

Прабач, Радзіма, я ведаю, ты ні прычым, у цябе не пыталі тыя самыя, што бяздумна і бяздарна распараджаліся табою. Тыя самыя... Ці апошнія на нашых палітычных падмостках?

*1990*

## ХВАЛА І СЛАВА ЯЗЫЧНІЦТВУ!

У XVIII—XIX стст. нацыянальнае жыццё беларускага народа амаль цалкам замыкалася ў сферах гаспадарчай і бытавой. І роднае слова абслугоўвала беларусаў пераважна ў гэтых сферах. Ды і то з пэўнымі агаворкамі. Што ж датычыць усіх іншых сфер грамадскага жыцця — на жаль, на жаль... У дзяржаўна-палітычных і ваенных структурах нацыянальна-беларускага нічога не было — на пачатку, да канца 18 ст., яны былі польскімі, а затым — расейскімі. Культурна-асветніцкае жыццё (школа, навука, тэатр, кнігадрукаванне) таксама працякала не ў беларускіх формах — спачатку ў польскіх, потым у польскіх і рускіх, а затым, пасля 1863 года, пераважна ў рускіх. Царкоўнае жыццё таксама нацыянальна-беларускім не стала: каталіцкі касцёл быў польскім, праваслаўная царква была рускай; адно уніяцкія храмы падтрымлівалі беларушчыну, але гэта цягнулася толькі да 1839 года, калі уніяцтва на Беларусі было ліквідавана.

Не дзіўна, што ў такіх варунках духоўнае забеспячэнне гаспадарчай дзейнасці народа і яго бытавога ўкладу ў вельмі значнай меры заставалася язычніцкім (паганскім). Людзі канешне ж адчувалі, што менавіта ў язычніцтве, у ягоных старажытных вераваннях, у каляндарных і сямейных абрадах, у звычаях і святах, у фальклоры — ёсць, жыве "сваё", роднае, беларускае, блізкае і дарагое душы і сэрцу. Як сама навакольная прырода, як родны падворак. І гэта прымушала іх, аддаючы належнае Богу і Хрысту, трымацца язычніцкай даўніны, не парываць з агромністым духоўным светам язычніцтва, з канонамі гэтай першай і самай праўдзівай рэлігіі на зямлі. Міфалагічная спадчына язычніцтва аказалася ў нас, у беларусаў, вельмі жывучай і менавіта яна моцна жывіла наш нацыянальны дух, спрыяла захаванню нашай мовы і абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці. І гэта зразумела: уся ж язычніцкая абрадавая і звычаёвая атрыбутыка жыла ў беларускім слове, адарваць яго ад гэтай атрыбутыкі ці замяніць іншым, небеларускім, было проста немагчыма. А ў той жа час абрады і святы, якія прышчапляліся і ўсталёўваліся ў нашым побыце хрысціянствам, амаль нічога агульнага з прыроднымі нацыянальна-беларускімі формамі не мелі. І галоўнае — не абслугоўваліся беларускім словам, з-за чаго ўспрымаліся як казённа-афіцыйныя, а значыць — навязаныя і чужыя. Нароўні з афіцыйнай чужою ўладай, з казённымі службамі, з казённай школай і г.д.

Так што паклонімся паклонам удзячнасці язычніцтву. Яно ратавала нас ад нацыянальнай нівеліроўкі, ад асіміляцыі, ад растварэння ў іншай моўнай і культурнай стыхіі. Хвала і слава яму за гэта!

*1990*

## А ПРЫЧЫНА ЎСЁ ТАЯ Ж — НЕГАСПАДАРЫ

Яшчэ на пачатку стагоддзя літаральна ўся Беларусь была паабстаўляна тысячамі дзівосных помнікаў дойлідства — культавага, бытавога і абарончага назначэння; тысячамі паркаў і сквераў, дэкаратыўных садоў і прысадаў, — гарадскіх і памесных, фальварковых; тысячамі штучных вадаёмаў, сажалак і стаўкоў, каналаў з каменнымі мастамі і мосцікамі. А тысячы непаўторных надмагільных помнікаў! А брукаваныя каляровай брусчаткай пляцы! А мармуровыя фантаны!.. Асабліва ж уражвалі сваёй манументальнасцю старажытныя замкі і палацы, мураваныя храмы — цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэці, манастырскія ансамблі... Як гэта кажуць — амаль на кожнай вярсце было чым палюбавацца, было што паглядзець самім і паказаць людзям, было ад чаго пасвятлець душою і ўзвысіцца духам, і не проста пагнарыцца, а яшчэ мацней паверыць у сябе, у сваю годнасную прысутнасць у свеце, у творчы геній свайго народа.

Прайшло каля ста гадоў — і ад гэтага незлічонага багацця амаль нічога не засталося! Лічаныя адзінкі! Лічаныя храмы, лічаныя палацы (і то паўразбураныя), лічаныя недавынішчаныя паркі... А сажалак і стаўкоў не стала зусім — усе ператварыліся ў балотцы або начыста павысыхалі. Было б несправядліва спісаць усё гэта апусташэнне толькі на сусветныя войны (1914—1918 і 1941—1945), што пракаціліся па Беларусі, хаця, бясспрэчна, вельмі шмат было зруйнавана і знішчана за гады ваеннага ліхалецця. На жаль і на сорам, яшчэ больш гэтых неацэнных архітэктурных і мастацкіх скарбаў загінула ад рук сваіх дамарослых вандалаў і варвараў — у выніку іх апантанай барацьбы з класава-варожым мінулым, як у даваенны перыяд, так і ў пасляваенны. Да самага апошняга часу ішло гэта нечуванае дзікунскае вынішчэнне таго, чым трэба ганарыцца. Працягваецца яно і сёння. Хто ж яго спыніць? Надзеленыя ўладай манкурты? Няўцямныя апушчэнцы-алкашы, у чыіх руках магутная сучасная тэхніка?..

Страшна ўявіць маштабы разбурэнняў, здзейсненых пераважна ўласнымі рукамі. А аднаўляць — няма ні сіл, ні сродкаў, а галоўнае — няма ўсенароднага разумення, што гэта трэба. "Ах, можна жыць і без гэтага!" Можна, вядома. Але — як? Ці па-людску? У якасці каго жыць — культурных людзей ці варвараў?

*1991*

## О, НАША СХІЛЬНАСЦЬ ДА "ПАРТЫЗАНШЧЫНЫ"!

Перабіраю ў памяці знаёмых мне (а іх сотні) партыйна-савецкіх кіраўнікоў — ад горкага пасляваеннага часу і да нашых дзён. Гэта — "кадры". Кадры, якія, як вядома, "рашаюць усё". Так змянілася за дзесяткі гадоў жыццё, а мараль "паноў-начальнікаў" — усё тая ж самая. Усё тое ж, што засталося ім у спадчыну ад ваеннай і пасляваеннай "партызаншчыны". Тое ж права сілы, дыктат і грубасць, самапраўства і самадурства, дзікае п'янства, пахабшчына. І канешне ж, сам падыход да вырашэння гаспадарчых, сацыяльных і культурных праблем, знакаміты камандны стыль, тысячу раз чутае "давай, давай!", "рабі, што я гавару, і не рассусольвай, а то..." Што "а то" — ахвяры начальніцкага гневу было зразумела.

Гаворачы пра трагічныя наступствы Вялікай Айчыннай у жыцці пасляваеннай Беларусі, мы зусім мала ўвагі звярталі на гэта — на маральна-псіхалагічны аспект праблемы. Усё пісалі пра пажарышчы і руіны, пра аднаўленне разбураных гарадоў і вёсак, знішчанай за час вайны народнай гаспадаркі, пра беднасць і галечу... Вядома ж, і аб працоўным энтузіязме людзей, які сапраўды быў небывала высокі, бо хацелася хутчэй залячыць раны і зажыць нармальным чалавечым жыццём. А тое нядобрае ў норавах і паводзінах "паноў-начальнікаў" (пераважна — нядаўніх партызанскіх камандзіраў), што таксама было спадчынай вайны, на фоне поспехаў і перамог здавалася, відаць, дробяззю. А дробяззю яно не было. Яно было страшным злом. Яго трэба было выпякаць паленым жалезам — бязлітасна і безаглядна! Ды рабіць гэта ніхто не збіраўся. І яно заставалася жыць — у крыві, у генах, і перадавалася новым пакаленням. О, наша схільнасць да "партызаншчыны"! Ці выкаранім мы яе хоць калі-небудзь?

*1991*

## ЯК НАБОЖНЫ МАЛІТВУ...

Быў, па запрашэнні, на адкрыцці Першага Беларускага фестывалю мастацтва інвалідаў. Фестываль праходзіў пад дэвізам "Глядзі на мяне, як на роўнага". Мастацкая праграма канцэрта моцна ўразіла мяне таленавітасцю і густам выканаўцаў. Седзячы ў зале, я неаднойчы зведаў хвіліны радаснага хвалявання. Божа мілы, якія прыгожыя людзі выступаюць на сцэне! Як здорава, як хораша, як натхнёна яны танцуюць і пяюць! Як прафесійна! — дадам пры гэтым. А як шчыра, як пранікнёна! Нібы чалавек не пяе, а гаворыць з Богам, з небам, з зямлёю, у такім самазабыцці, у якім святы ці набожны творыць малітву...

І, канешне ж, густ. Пра густ трэба сказаць асобна. Ён — перш за ўсё ў выбары рэпертуару. На фоне ўсеагульнага сучаснага "балдзення" — так прыемна было слухаць у харавым і сольным выкананні народныя песні і класічную музыку, глядзець танцы фальклорна-харэаграфічных ансамбляў, народную пантаміму (а гаворка ідзе, не забывайма, пра інвалідаў!), слухаць высокую музыку ў выкананні духавых і струнных аркестраў, прыгожае паэтычнае слова ў вуснах чытальнікаў.

І ўсё гэта, як высвятлілася ў размовах з "артыстамі", амаль на голым энтузіязме, грошай на самадзейнае мастацтва інвалідаў ні дзяржава, ні прафсаюз амаль не даюць, кажуць — няма. Сумна! Калі такіх людзей мы ўжо не здольныя падтрымаць у іх імкненні да Бога — значыць, нашы справы сапраўды дрэнь.

*1991*

## ШТО Ж НЯМІЛАЕ БОГУ СКАЗАЎ Я?

У траўні каля Свята-Духаўскага Сабора ў Мінску праходзіла ўрачыстасць, прысвечаная Святу Славянскага Пісьменства і Культуры. Выступалі святыя айцы, вернікі, людзі навукі і мастацтва. Было прадугледжана і маё слова — з увагі на пэўныя заслугі ў справе яднання славянскіх літаратур. Людзей на ўрачыстасць сышлося вельмі шмат — і, думаю, не выпадковых, а тых, што пацягнуліся душой і сэрцам да Бога і да культуры, да духоўных каштоўнасцяў. Калі, па заканчэнні "мерапрыемства", я ўжо рушыў у святочным натоўпе з саборнага двара ў бок Пляца Волі, мяне запыніла, па ўсім відаць, сямейная пара, прыкладна майго ўзросту. Божа, колькі пагарды і нянавісці было на іх тварах і ў іх словах! "Что вы навязываете нам этот свой язык! Хотите, чтобы с Богом мы говорили по-хамски?" Я паглядзеў ім у вочы і спакойна адказаў: "Апомніцеся, людзі, і не абражайце мову народа, а то Бог пачуе і пакарае вас".

У скверыку на Пляцы Волі я сеў на лаўку і дастаў з кішэні нататнічак з накідам прамовы, якую толькі што слухалі гэныя ўзненавідзелыя мяне людзі. І моўчкі прачытаў напісанае.

"Свята Славянскага Пісьменства і Культуры — свята яднання братніх славянскіх народаў. Гэтае свята будзе мець сапраўды глыбокачалавечны сэнс і тым самым сваё апраўданне толькі тады, калі яно будзе выяўленнем шчырага пачуцця ўзаемапавагі, шчырых памкненняў да дружбы, да ўзаемаразумення і ўзаемадапамогі, калі наш грамадскі настрой будзе светлы, як гэты сонечны вясновы дзень, калі неба душы народнай не будзе зацягвацца хмарамі крыўды, горычы, засмучэння... Ці можам мы, беларусы, сказаць сёння, што неба нашай душы зусім бясхмарнае? Што мы маем усе падставы радавацца росквіту нашай нацыянальнай славянскай, падкрэсліваю — славянскай, культуры? На вялікі жаль, няма ў нас такіх падстаў. І галоўная прычына гэтага — стан нашай роднай беларускай мовы. І не будзе ў нас падстаў для поўнай радасці да таго часу, пакуль усе беларусы, усе людзі гэтай зямлі не загавораць між сабой і з Богам сваёю роднай мовай, пакуль наша мова не запануе тут, на нашай адвечнай Бацькаўшчыне гэтак жа, як руская мова пануе ў Расіі, балгарская ў Балгарыі, сербская ў Сербіі, польская ў Польшчы і г.д. Хто-небудзь скажа, што сёння, з увагі на ўрачыстасць моманту, не варта пра гэта гаварыць. Варта, дарагія людзі, варта! Трэба гаварыць! І не толькі гаварыць, а — працаваць, дзейнічаць! Дык няхай жа ўсе, каму дарагая Бацькаўшчына, глыбока прасякнуцца адчуваннем і разуменнем гэтага абавязку. Са Святам!"

Што ж такое нямілае Богу сказаў я? Дзе ў маім слове няпраўда? Дзе і да каго я несправядлівы? Дзе ў ім адступленне ад Боскіх запаветаў, ад Святога Пісання? Няма такога, няма, шаноўныя людзі! Чым жа я разгнявіў вас? Сваёй любоўю да роднай мовы?..

Так думаў я там, на лаўцы, з сумам гледзячы на асветленыя сонцам белыя стромы Сабора. Значыць, не ўсе прыходзяць да храма з Богам у душы. Не ўсе... Бог — любоў, а гэныя прыйшлі сюды з нянавісцю.

*1992*

## СВАЁ, СВАЁ ПРАРЫВАЛАСЯ!..

У 1819 годзе малады паэт Ян Чачот на імянінах свайго сябра Адама Міцкевіча выканаў напісаную ім сцэнку-дыялог па-беларуску. Па-беларуску... хаця ўвогуле між сабой яны, дзеці заможнай шляхты Наваградчыны, карысталіся польскай мовай. І свае першыя паэтычныя творы пісалі па-польску. Што ж прымусіла Чачота выказаць сваё віншаванне не панскай (афіцыйнай, літаратурнай) мовай, а мовай беларускай вёскі (мужыцкай, некультурнай)? Можа, наўмысна дзеля таго, каб "сыграць на кантрасце" і, насуперак настроенасці ўсіх прысутных на высокі ўрачысты лад, выдаць дыялог на тутэйшай бытавой гаворцы і гэтым дасягнуць жартоўна-камічнага эфекту? Сітуацыя дазваляла: імяніны сябра, а не, скажам, рэктара універсітэта. І наконт знакамітых паэм "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе" неаднойчы ў свой час гаварылася, што па-беларуску, г. зн. грубай мужыцкай мовай яны былі напісаны таксама наўмысна — дзеля смеху, дзеля жарту, каб адукаваныя паны павесяліліся, пацешыліся. Магло быць і так — і наўмысна дзеля пацехі. А калі ўсё ж не так? А калі Чачот, як і аўтары названых паэм, унутраным чуццём адчуваў, хай сабе і не да канца ўсвядомлена, што гэтай мясцовай мовай, якую, дарэчы, ён называў крывіцкай, можна зусім сур'ёзна пісаць прыстойныя рэчы — такія ж, як польскай ці рускай? Склаў жа ён пазней, і ці мала, сваіх беларускіх песень, адрасаваных як сялянам, так і панам, і тут ужо ніяк не скажаш, што ён гэта зрабіў дзеля смеху-жарту. Гэта была сур'ёзная творчасць на мове гаротнага, занядбанага, забітага народа, якому ён шчыра спачуваў і часцінкай якога — няхай сабе і не заяўляючы аб гэтым уголас, публічна — ён сябе лічыў. Не мог не лічыць: адукаваны ж быў чалавек, начытаны, дасведчаны, ведаў гісторыю свайго краю, лёс "крывіцкай мовы", яе вялікае дзяржаўнае мінулае... Сваё, сваё — роднае, крэўнае, карэннае — прамаўляла ў такія хвіліны, прарывалася з душы на волю! Ого, гэтае адчуванне свайго на генавым узроўні!..

*1992*

*(Працяг на стар. 14—15)*

## У гасцях у песняра



**По ініцыятыве інструктара па ваенна-шэфскай рабоце Цэнтральнага Дома афіцэраў Анатоля Враб'я Коласаў дом наведала група абаронцаў нашай Айчыны. Як звычайна, гаворку пачаў нязменны вядучы такіх сустрэч Іван Курбека. Затым выступіў Іван Кудраўцаў. Ён успомніў свае ваенныя шляхі-дарогі, прыгадаў сустрэчы з песняром. Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа, паведаміў шмат цікавага з жыцця-быцця песняра, расказаў пра сябе і сваіх старэйшых братоў — Данілу і Юрку (першы, шматгадовы дырэктар музея, памёр у 1996 годзе, другі загінуў на фронце ў пачатку вайны). Пятро Прыходзька прачытаў вершы на ваенную тэматыку і прысвечаныя песняру.**

**Закончылася сустрэча выступленнем "Менскага гармоніка". Салісткі ансамбля (навучэнкі Мінскага вучылішча мастацтваў) Наташа Мельнік і Алена Батракова праспявалі некалькі песень свайго кіраўніка на словы беларускіх паэтаў і яго асабістыя — пад акампанемент самога Івана Раманчука.**

**А. МАЛЕВІЧ**

*Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА*

## Калі музыка — лішняя



**Пятая кніга паэзіі Любові Турбіной мае назву "Четыре портрета" ("Юнипол", 1997). Выдадзена яна ў Мінску пры фінансавай дапамозе адной маскоўскай фірмы, а прэзентацыя выдання адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы.**

**Л. Турбіна — аўтар, у якога ёсць свой чытач, хай сабе не шматлікі, але правераны часам. Прыхільнікі яе лірычнай паэзіі і прыйшлі ва ўтульную залу паслухаць вершы, пагутарыць з аўтарам. Невялікі аб'ём кнігі дазволіў прачытаць яе амаль усю.**

**Пасля перапынку неяк сама сабой узнікла гутарка пра творчы шлях паэткі (у мінулым — фізікарадыебіёлага), пра месца паэзіі ў сённяшнім грамадстве, пра адрозненне душэўнасці і духоўнасці. Была адзначана такая асаблівасць: калі музыка ёсць у саміх вершах, то пісаць музыку на іх як бы лішне. Можа, таму на вечарыне не гучалі песні.**

**Атмасфера была цёплая, нязмушаная, што вельмі адпавядала характару вершаў вядомай у нас рускай паэтэсы. Нездарма хтосьці з прысутных назваў жанр гэтай сустрэчы перформенсам — з'явай, калі асоба творцы і яго вершы ўяўляюць сабой мастацкую з'яву.**

**Г. З.**

ВІНШУЕМ!

# Лёс у чалавека — адзін

## Івану НОВІКАВУ — 80



У 1964 годзе, пішучы аўтабіяграфію для кнігі жыццяпісаў беларускіх пісьменнікаў "Пра час і пра сябе", што пабачыла свет у выдавецтве "Беларусь" праз два гады, Іван Новікаў зазначыў: "Шчыра кажучы, у мяне няма ніякай падставы скардзіцца на свой лёс. Ён даў мне паспытаць усяго: і радасці, і смутку, і цяжкасцей, і асалоды, якую прыносіць дасягнутая мэта. Ён кідаў мяне па свеце, часам не клапоцячыся аб тым, выплыву я ці не з бурнага мора жыцця". І працягвае: "І ўсюды, дзе б я ні апынуўся, заўсёды знаходзіліся добрыя людзі, якія так ці інакш дапамагалі мне".

Пісалася гэта не проста ў 1964 годзе, а — 8 лістапада 1964-га. Акурат у дзень свята, звязанага з той самай рэвалюцыяй, якую сёння многія называюць усяго толькі кастрычніцкім пераваротам. Ды толькі як ні называй, а тое, што адбылося ў лістападзе 1917-га, па-добраму адгукнулася ў лёсах многіх з пакалення, да якога належыць І. Новікаў. Таму, думаецца, Іван Рыгоравіч і спавядаўся менавіта ў такі дзень, згадваючы старонкі свaёй, як на той час, не такой і вялікай дарогі. Сапраўднае прызванне было наперадзе. У 1965 годзе стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа за аповесць "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску". Праз тры гады за кнігу "Тварам да небяспекі" атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР імя П.М. Лепяшынскага. Яшчэ адной Дзяржаўнай прэміяй быў ганараваны ў 1974 годзе — гэтым разам як сааўтар сцэнарыя тэлевізійнага мастацкага фільма "Руіны страляюць..." Нарэшце, у 1980 годзе, заўважылі і ў Маскве — трылогію "Минский фронт" адзначылі Літаратурнай прэміяй імя Аляксандра Фадзеева...

Усё гэта так, але "напрацоўкі" да ўсіх гэтых поспехаў, калі можна гэтак сказаць, былі зроблены якраз на час напісання аўтабіяграфіі. Менавіта тады І. Новікаў заявіў пра сябе як пра цікавага пісьменніка-дакументаліста, пра літаратара, які не толькі расказвае аб сучаснасці, а і выступае даследчыкам, ідзе па цаліку. І перш чым брацца за пяро, не проста збіраў фактычны матэрыял, а і адкрываў яго. Гэтаму настойліваму пошуку Івана Рыгоравіча навучыла журналісцкая праца.

Газетчыкам І. Новікаў стаў яшчэ ў 1935 годзе, калі пасля заканчэння тагачаснага Магілёўскага газетнага тэхнікума, у які, дарэчы, паступіў па рэкамендацыі тады маладога журналіста, а пасля вядомага пісьменніка Аляксея Кулакоўскага, прыйшоў у рэдакцыю клімавіцкай раённай газеты "Камуна". Затым была непрацяглая вучоба ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце, з якім развітаўся праз некалькі месяцаў, бо акурат аб'явілі прыём у Ленінградскі інстытут журналістыкі. Але інстытут не скончыў — пачалася вайна (забягаючы наперад, скажу, што вышэйшую журналісцкую адукацыю І. Новікаў атрымаў толькі ў 1955 годзе, калі завочна скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У.І. Леніна). У час барацьбы з фашызмам удзельнічаў у абароне Сталінграда, у вызваленні Украіны, Малдавіі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі. У баях за венгерскі горад Секешфехервар быў цяж-

# На гранічным напружанні сіл

Яўгенія Янішчыц... Гэтае светлае імя прымушае згадваць худзенькую, мілую жанчыну з невычэрпнай сардэчнасцю і вялікім талентам. Яна дарыла нам сваёй паэзіяй чысціню, адкрытасць, шчырасць. А ўсё светлае, прыгожае заўсёды становіцца часткай Духу Зямлі, які абуджае ў людзях жыццесцвяральныя сілы, пазітыўны творчы патэнцыял. Яснай зорачкай, якая аддала вельмі хутка сваё цяпло і ззянне людзям, і была паэтэса.

Яна імкнулася ў жыцці да ўсіх магчымых вышынь у самарэалізацыі. Аднак шлях да іх выдаваўся часцей цярністым, няроўным. Жыццёвыя выпрабаванні патрабавалі выключнай цярплівасці і поўнай аддачы.

Яе душа і розум часцей апыналіся на зломе былога і цяперашняга, жаданага і атрыманага рэальна. Супярэчнасці быцця праламляліся ў яе душэўным стане, балюча ранілі мяккую жаночую існасць. І гэта не магло не паўплываць на з'яўленне ўнутранай нестабільнасці, у чым праявілася "традыцыя драматычнага аптымізму, імкненне захаваць гармонію свету, перажываючы боль і горыч у паэзію і харасство", — як трапна заўважыла Т. Чабан. У многім такая дысацыяцыя ў свядомасці адбілася на характары ўсёй лірыкі, асабліва ў апошніх зборніках "Пара любові і жалю" і "Каліна зімы", якія можна назваць кнігамі-успамінамі пра былое юнацкае захапленне светам.

Я. Янішчыц заявіла аб сабе творамі, што прыкметна адрозніваюцца ад вершаў першых зборнікаў — летуценных, бясхмарных. Гэта звязана з адкрыццём новага пласта, новых граней рэчаіснасці — з аднаго боку, а з другога — з якасна новым падыходам да ўжо вядомага, "вяртаннем напярад". І першы, і другі аспект у адвечным спасціжэнні і адкрыцці для сябе свету сведчылі пра павелічэнне разрыву паміж светлымі чаканнямі і нерэалізаванасцю гэтых чаканняў. Неадпаведнасць паміж убачаным і адчутым становіцца вызначальным момантам у асэнсаванні сувязі паэткі і яе лірычнай гераіні з вёскай, зямлёй, бо "Яшчэ сялянская дарога Не завяла мяне у зман".

Вёска стала для паэтэсы крытэрыем усіх жыццёвых каштоўнасцей. А таму і яе гераіня прыпадае да зямлі, імкнецца адчуць яе, як жывую істоту. Вясковы дух у ёй ад выхавання, ад натуральнага, арганічнага засваення сялянскіх ісцін. Сама натура жанчыны прасякнута народнымі ўяўленнямі аб жыцці і сэнсе жыцця, яны зрабіліся падмуркам яе светапогляду, вехамі сярод жыццёвага хаосу, найгалоўнымі складнікамі яе свядомасці:

*Бо тут усё сваёй хадою:*
*І першы ліст, і першы гром.*
*І певень з поўняй маладою,*
*І Камарыха з Камаром.*

Гарадское асяроддзе разбурыла усталяваныя ў вёсцы правілы і законы сумеснага пражывання, а новыя яшчэ не акрэсліліся. А таму ўсё часцей узнікаюць супярэчнасці ў пошуках з'яднання ў душы паэтэсы вёскі і горада, бо горад не дае той паўнаты ў самаадчуваннях, як вёска: "Яшчэ не раз бяссонне злучыць Асфальт з былінамі лясоў...". Абвостраная скансэнтраванасць на немагчымасці арганічна ўвайсці ў новую атмасферу існавання нараджае адчуванне няўтульнасці ў чужых для яе месцах, якое потым перарастае ў незадаволенасць сабой і быццём. Ад такой двухсэнсоўнасці выратоўвае хіба што памяць. І сілу дае палеская зямля. Але і там узнікаюць свае глабальныя праблемы. Вёска аджывае, а з ёю пачынаюць забывацца непахісныя раней жыццёвыя правілы палешукоў: "Яшчэ тут непакояцца пра дровы. Пра сена. І салому на гумне...". У гэтым "яшчэ" — усведамленне незваротнасці былога, няспыннасці працэсу адмірання многіх сялянскіх традыцый, а таксама праява чуласці, чуйнасці гераіні да гора яе зямлі. Уся глыбіня спасціжэння набытых вёскай праблем у вершах "Сюды вяртаюся ад скрух...", "Вячэрні плёс. І лодка на прыколе..." — імгненных водгуках душы на самыя дробныя праявы супярэчнасцей і неўладкаванасці ў свеце: "маладыя жанкі пералічаны па пальцах...", "як ні кажы, да старасці ўсё дзела...", "стамілася раджаць зямля ў гародзе...". Бяда Я. Янішчыц у ранімасці і непрыстасаванасці яе мяккай жаночай натуры да націску цывілізацыі, адсюль напружанасць, трывога і неспакой у думках пра будучыню.

У вершы "Пра балота" Я. Янішчыц стварае канкрэтна-адчувальны, рэалістычны, дакладна выпісаны малюнак, што вырас на рэальнай глебе жыццёвай праўды, глыбока перажытых асабістых пачуццяў:

*Колькі мудрых і дарэмных слоў*
*Прыняло Палессе без правіны.*
*Помню, чорных ведала буслоў,*
*І пад снегам помню журавіны...*

Кантрастам на фоне былога паўстае сённяшняя рэальнасць. А "помню" стала рубяжом, гранічным выяўленнем дысанансу свету, у якім пачалі актыўна пра сябе заяўляць чарноцце і пустата.

*Добра помню, як сказалі дзве*
*Цёткі, стрэўшы прышлага аднойчы:*
*"У яго трасун у галаве.*
*У яго пустыняй пахнуць вочы"...*

У такім падыходзе да з'яў рэчаіснасці праявілася здольнасць — што так важна для паэзіі, — распазнаць у самым простым, штодзённым глыбінную і супярэчлівую плынь жыцця, сувязь стагоддзяў і чалавечых лёсаў, якая будавалася на перапляценні супрацьлеглых з'яў. І ў такім суіснаванні чорнага і белага паэтэса бачыць пэўную небяспеку: калі людзі не будуць празорлівымі, дальнабачнымі, кіраваць светам пачне чарната. А таму ўсё часцей кліча дарога дамоў, там — яе супакаенне і сіла, там вытокі яе жыццёвай праўды:

*Сюды вяртаюся ад скрух*
*З імжастых сураевяў.*
*Яшчэ жывы у хаце дух,*
*Бо мама сцены грэе.*

Зноў з'яўляецца слова "яшчэ" як рубеж паміж тым шчаслівым юнацтвам і бесклапотнасцю, і новымі павевамі жыцця. Мама — як падтрымка ў абраным раз і назаўсёды шляху "ад зямелькі". "Не абаб'ю чужых парогаў, — і свой яшчэ высок паркан...". Зноў "яшчэ", у якім упэўненасць і заклапочанасць, годнасць і няўстойлівасць, а ў цэлым — усведамленне немагчымасці нечага іншага.

Сплаценне супрацьлеглых пачаткаў у светаўспрыманні лірычнай гераіні і мастацкім адлюстраванні рэчаіснасці зыходзіць ад усведамлення нявырашанасці і невырашаемасці многіх вясковых праблем. І нягледзячы на гэта, застаецца ўпэўненасць у стваральных магчымасцях вясковага ладу, у яго гуманістычным сэнсе. Маці і бацька — роднае, самае пастаяннае і сапраўднае ў жыцці паэткі, гэта жывая, блізкая ёй гісторыя. Праз родных пачынаецца пошук сябе ў другіх людзях, другіх людзей у сабе. Своеасабліва праламляецца бачанне і адчуванне гэтага свету ў лірычнай гераіні праз успрыманне бацькавай увагі і павагі да людзей, да дачкі ("Ты мой заступнік адзін..."), праз адвечную бацькаву клапатлівасць, якая застаецца яго сутнасцю нават і пасля смерці: "Полем сівых перапёлак і бою Ходзіць балюча-ахоўны твой цень..." ("Бацькавы дровы").

Усе перыяды жыццёвага наканавання своеасабліва і незвычайна ўвасоблены ў цікавай кампазіцыі верша "Бацькава музыка", у якім паэтэса праз успаміны асэнсоўвае прывабнасць і адметнасць бацькавага лёсу:

*І покуль я яшчэ жыву на свеце,*
*Яго ніяк я не ўяўляю мёртвым —*
*Я плоць яго, нявыветраны дух!*

## Згукі мінуўшчыны

На першай старонцы вокладкі апошняга ў мінулым годзе нумара часопіса "Беларуская мінуўшчына" змешчана рэпрадукцыя партрэта Станіслава Аўгуста Панятоўскага, напісанага ў 1797 годзе ў Пецярбурзе. Гэтае жывапіснае палатно, створанае французскай мастачкай Э. Віжэ-Лебрэн, захоўваецца ў музеі Заходняга і Усходняга мастацтва ў Кіеве. А рэпрадукцыя надрукавана невыпадкова. Дапаўненне да яе — артыкул А. Соніча "...І Вялікае княства ў прыдачу", у якім расказваецца пра няпростае жыццё апошняга польскага караля і апошняга вялікага князя літоўскага. Гэты матэрыял апублікаваны ў адным з асноўных раздзелаў "БМ" — "Постаці". Можна даведацца і пра іншых слынных людзей. Прынамсі, В. Чаропка ("Чэсць вышэй за жыццё прынашу") — так прадстаўляе Жыгімонта Карыбутавіча: "Ён мог стаць каралём Чэхіі, але не стаў. Гэтак склаліся абставіны, што Жыгімонт Карыбутавіч апынуўся ў цэнтры палітычных падзей, якія скаланулі звычны лад жыцця Еўропы XV стагоддзя. Незвычайны лёс гэтага чалавека нагадвае сюжэт рамана геніяльнага пісьменніка". Герой нарыса В. Савіч "Паміж "чырвонымі" і "белымі" — Юзаф Каліноўскі, адзіны з нашых суайчыннікаў, што жылі ў апошнія трыста гадоў, які быў прылічаны да ліку святых каталіцкай царквы. А. Марціновіч ("Акадэмік жывапісу з мястэчка Ляды") знаёміць чытачоў з жыццём і творчасцю С. Заранкі. А. Карлюкевіч ("Альтуці з Полацка") апавядае пра опернага спевака, галоўнага рэжысёра Вялікага тэатра ў Маскве А. Альтшулера, які быў родам з Полацка. Па-новаму асэнсоўвае біяграфію А. Сянкевіча ("Адзін у чатырох іпастасях") Э. Іофе. А нарыс М. Бакуменкі ("Капітан гэты быў Казарскі") — пра беларуса, ураджэнца Дуброўна, помнік якому пастаўлены ў Севастопалі. Так усłаўлены подзвіг нашага земляка ў барацьбе з туркамі.

Увогуле лістападаўска-снежаньскі нумар "БМ" багаты на цікавыя, разнастайныя матэрыялы, што закранаюць розныя аспекты нацыянальнай гісторыі. Артыкул Г. Штыхава "Каждо да держить отчизну свою" прымеркаваны да 900-годдзя з'езда князёў у Любечы. Тады, як вядома, быў вырашаны лёс Кіева на некалькі стагоддзяў. А вось А. Ціхаміраў ("Ад Рыгі да Генуі") кранаецца падзей куды менш даўніх, звязаных з першымі гадамі існавання БССР.

У 1862 годзе ў Віцебску быў адкрыты першы на Беларусі дзяржаўны архіў — Віцебскі цэнтральны архіў старажытных кніг, які за сорак гадоў свайго існавання выдаў 32 тамы "Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў, узятых з актавых кніг Віцебскай і Магілёўскай губерняў". Пра лёс гэтага унікальнага сховішча можна даведацца з артыкула А. Трусавай "Невычэрпная крыніца". Старонкі гісторыі Віцебшчыны перагортвае М. Пішчулёнак ("Пра час, калі здымалі званы").

У раздзеле "Пяроспар" выступаюць Л. Лойка ("Этнагенез беларусаў на фоне гісторыі і геапалітыкі"), Я. Анішчанка ("Яны баяліся беларускага народа..." — вяртанне да падзей паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі), А. Трусава ("Беларусі патрэбна шматтомная гісторыя матэрыяльнай культуры").

"Галерэю" часопіс працягвае штрыхамі да жыццёвых і даследчыцкіх партрэтаў А. Мальдзіса ("Чалавек года") і А. Грыцкевіча ("Нашчадак шляхецкага роду").

Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы П. Брыгадзіна і А. Лукашэвіча "Як шклоўскія кадэты ў Маскву трапілі", В. Лабачэўскай "Ільняная акцыя, або Паэзія шэрага жыцця", М. Батвінніка "Паўстанне ў глыбоцкім гета", каляндар на 1998 год...

С. Асіноўскі ("Часопіс "Беларуская мінуўшчына" павінен чытаць кожны беларус") робіць агляд рэдакцыйнай пошты, з якой відаць, як ухваль на ставяцца чытачы да гэтага выдання. А ў загаловак матэрыялу вынесена меркаванне паэта П. Прыходзькі.

В. ЗУШЧЫК

---

ПАЭЗІЯ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



# "І будзе вясна на двары"

## Балаган

I

### КАМЕДЫЯ ДЭЛЬ АРТЭ

*Павуцінне змецена з карцін.*
*Цень паўднёвы ў белым кубку тоне.*
*Глянь, як абадраны Арлекін*
*Лупіць залатога Панталоне.*
*А П'ерэта плача цэлы дзень,*
*Каламбіна ж з гэтага смяецца.*
*З кубка выпівае горкі цень*
*Крэйдавы П'еро з разбітым сэрцам.*
*Цені кіпарысаў, як мячы,*
*Недзе скрыжаваныя ў прасторы.*
*І ніхто не можа памагчы*
*Маску зняць і акунуцца ў мора.*
*Аўтар, ты не зменіш амплуа*
*І не будзе сумнай Каламбіна...*
*Дама плечы хутае ў баа,*
*І жандару цяжка з карабінам.*
*Сонца нізка. Скончаны спектакль.*
*Змоўклі гандляры. Пара дадому.*
*Скрозь загуста звязаную шаль*
*Шоўк стракаты не відзён нікому.*
*Вось і ўсё.*
*Навошта аўтар тут,*
*Дзе іграюць маскі, маскі, маскі...*
*...Мне карціну, дзе Апошні суд,*
*Загарніце добра, калі ласка.*

II

### ЦЫРК

*Пажоўклая трава.*
*Не звяў адзін палын.*
*Мядзведзь на ланцугу*
*пляцецца за павозкай.*
*Гірляндам штучных руж*
*натомлены факір*
*Бліскучасць надае пры дапамозе воску.*
*Зялёнае трыко*
*цыруе акрабат.*
*А збоку, ля калёс маленькая цыркачка*
*Смяецца і пяе пра салаўіны сад,*
*Падкідваючы ўверх*
*жанглёрскі сіні мячык.*
*Заўсёды будзе хлеб —*
*іх не пакіне Бог.*
*Навошта сумаваць?*
*Іх рамяство — вясёласць.*
*Вазьміце і мяне ў апошнюю з дарог.*
*Абрыд мне балаган,*
*дзе тонкасці гавораць.*
*Абрыдлі фальш вакол,*
*разумнасцяў фальга.*
*Куды там — зорку ў лоб!*
*Задавальняйся шнарам.*
*Мне спрыту не стае.*
*Смяецца балаган.*
*Ды за пацеху ў ім*
*не кідаюць дынары.*
*Парыпвае вазок,*
*пагруквае ланцуг,*
*Дзяўчынка ўсё пяе*
*пра салаўя і ружу.*
*А песня ўсё далей...*
*Асоту белы пух*
*Услед за ёй ляціць,*
*між аблачын і лужын.*

III

### ВАНДРОЎНЫ ТЭАТР

*Калыханку зямной прыгажосці і смутку*
*Салавей імператару больш не спявае.*
*Ціха коцяцца колы —*
*нягож не па бруку.*
*Па разбітых дарогах*
*каханага краю.*
*Для вандроўных артыстаў*
*закрыты сталіцы.*
*Толькі штучныя птахі*
*не ведаюць межаў.*
*Светлы князь на мядзведзях*
*па солі імчыцца,*
*Ад халопскіх "віватаў"*
*уздрыгваюць вежы.*
*Лепей збочыць.*
*Не ў княскіх аздобленых клетках*
*Салаўіная песня ліецца на золку.*
*Калыхае дарога загадку Сусвету,*
*Нашы колы грукочуць ад баляў далёка...*
*І блазенскі Хрыстос*
*у вазку балаганным*
*Сам сабе крыж рыхтуе*
*і марыць пра зоры.*
*Завадны салавей распявае старанна*
*У палацавай мёртвай*
*замкнёнай прасторы.*

IV

### ТЭАТР АДНАГО АКЦЁРА

*Да дому майго не засыпле сцяжыну.*
*У кубку навек не астыне гарбата.*
*І вэлюм блакітны не скіне дзяўчына,*
*Якая прыйшла да мяне, як да брата.*
*Яна спавядаецца, нешта сакоча,*
*І просіць парады,*
*і хваліць мой розум.*
*І мае такія блакітныя вочы,*
*Якімі бяруць каралеўствы і лёсы.*
*І я разважаю... І раю... І ўрэшце*
*Яе адпускаю — у вецер, у казку.*
*І што — мае вершы!*
*Я — лішні, я — трэці,*
*Які ад самоты прыдумвае маскі.*
*Нічога!*
*Я зараз прымрою другую,*
*Каб чорныя бровы,*
*і гордыя словы.*
*Яна дакарае — але не шкадуе,*
*І сэрца не дзеліць сваё напалову.*
*Сышла...*
*Толькі свечкі агонь здрыгануўся...*
*А вы хто такая?*
*Я вас не прыдумваў.*
*Вы — з мроі чужой.*
*Заблукалі вы, мусіць,*
*Маім паэтычным заваблены сумам.*
*У белае мары я не апранаю.*
*Ласкавая пані, змяніце адзенне...*
*Сцяжыну да дому майго замятае.*
*Тут — белая пані.*
*І белыя сцены.*
*І белае неба — бяззорнае — ўверсе.*
*Сюжэт завяршае апошняя з версій.*

## Грэшнік

*Гасподзь са мною не гаворыць больш.*
*І ў келлі пуста, як у воку старца.*
*І ў такт малітве барабаніць дождж,*
*Ды словам ручайнай не зліваецца.*
*Якая ціша, як замоўкне Бог!*
*Зямное цела*
*уціскае ў глебу*
*Яе нязносны цяжар... І дарог*
*Цяпер няма — аглухламу — да неба.*
*Я голас Божы, грэшнік, успрымаў*
*Нібы бізун ці вогненныя кроплі.*
*Здавалася — пакутую дарма,*
*Няздольны да праroцтваў у натоўпе.*
*Ну што карысці — між каменных сцен*
*Сціскацца пад нябачнаю маланкай,*
*Калі жыццё па залатой вадзе*
*Кіруе човен да чужых прыстанкаў.*
*Не затрымаць, не растлумачыць жах*
*Той стромы, што наперадзе чакае...*
*І Бог пачуў... І цішыня ў вушах —*
*Жаданая, вар'яцкая, цяжкая...*
*Гасподзь маўчыць.*
*Я словы гавару,*
*З якіх малітва скласціся павінна.*
*...І брат мой рукі цягне угару*
*І шэпча: "Чую, Божа мой адзіны!"*

## Пілігрымы

*Раздзьмуў у верасе жарынкі вецер.*
*Як зоры, зззяюць сэрцайкі шыпшын.*
*Ідзем, ідзем, адзіныя на свеце,*
*Хто вечны адпачынак заслужыў.*
*Нас не прыпыняць ні кілімы кветак,*
*Ні колкія кустоўі, ні дажджы.*
*Святло сляпое прасявае ветах*
*На шлях і прыдарожныя крыжы.*
*Мы — пілігрымы.*
*Ад святой мясціны*
*І да святой мясціны цягнем шлях.*
*Мы быць жывою ніткаю павінны,*
*Што вераю зніtoўвае прасцяг.*
*І што з таго, што ў Бога на далоні*
*Не святасць наша — пачуццё віны...*
*Бо мы ідзем,*
*і дождж ліе халодны*
*Праз нашы недагледжаныя сны.*

## Недзе ў Еўропе

*Зноў выпаў снег.*
*Забілі святара.*
*Красуня не заторгвае фіранкі —*
*Жаўнеры едуць. Золатам гараць*
*Іх эпалеты гэтым ясным ранкам.*
*Нічога не змянілася. Чужы*
*Прыйшоў — і пойдзе.*
*Вадзіцца дарэмна.*
*Касцёлы, як іржавыя нажы,*
*Прымерваюцца да нябёсных венаў.*
*І вось пайшоў ужо крывавы снег,*
*Але растаў...*
*У белым — болей смерці.*
*Заторгнутых фіранак ціхі грэх*
*Ніколі не адкрые бедны Вертэр.*
*Назаўтра на далёкую вайну*
*Зноў чужакі паедуць праз мястэчка.*
*Рукамі абдымаючы сцяну,*
*У снег спаўзе чарговы чалавечак.*
*Сам вінаваты — думай пра сям'ю.*
*А тут жыццё не спыніцца ніколі.*
*І людзі песні новыя спяюць*
*Пра горад свой,*
*які не хоча волі.*

●

*Шамацяць па дарозе чыесьці*
*самотныя крокі,*
*Праплываюць між зорамі*
*чоўны заманлівых сноў.*
*Высыхае надзея, нібыта слязіна*
*на воку,*
*І ніхто не пастукае,*
*І не напіша лістоў.*
*Гэта ноч, гэта дождж, гэта восень —*
*сярэдзіна лёсу.*
*Але ўся Беларусь*
*сон-травою нібы парасла.*
*І па Млечным шляху грукацяць*
*нетаропка калёсы —*
*Ад'язджаюць мятлушкі,*
*якім не хапае цяпла.*
*Адлятаюць у выраі,*
*далей ад халоднай Айчыны,*
*І аблокі, і птушкі, і кнігі,*
*і нават сябры.*
*Ну а мы застаемся ўслухоўвацца*
*ў крокі начныя,*
*Ну а мы застаемся —*
*і будзе вясна на двары.*

---

З ПОШТЫ

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Вось бы спачатку пачаць...

●

*Першы туман*
*серабрыцца ля рэчкі...*
*Першы*
*пажоўклы*
*лісток на акне...*
*У закаханых*
*першыя спрэчкі...*
*Можа, наладзіцца?*
*Не...*
*Так не бывае...*
*А як жа бывае?*
*Сумныя птушкі*
*тужліва крычаць...*
*Вецер з галінак лістоту зрывае...*
*Чорная хмара зямлю палівае...*
*Гэта каханне свой век аджывае...*
*Вось бы спачатку пачаць...*

●

*Ну што табе сказаць,*
*сказаць на развітанне?*
*Два лёсы не звязаць,*
*калі прайшло каханне.*
*Калі яно ўцячы*
*ад нас з табой схацела...*
*Калі яно ўначы,*
*як птушка, адляцела...*

●

*А можа, з восеньскім агнём*
*каханне наша дагарэла?*
*А можа, проста захварэла*
*халодным днём, самотным днём?*

*Каханне наша распаліць*
*наноўку нельга прымусова.*
*Яно баліць яшчэ часова.*
*Яно баліць, яшчэ баліць...*

*І варушы, не варушы —*
*агнём не ўспыхне папялішча.*
*Сцюдзёны вецер сумна свішча*
*па-за вуглламі душы.*

ПРОЗА

# ЧЫЙ ТЫ СЫН, МІХАЛКА?

Алесь МАСАРЭНКА



## УРЫВАК З РАМАНА

*Свой новы раман "Асцё і зерне" пішу паводле ўспамінаў маіх землякоў — людзей самых розных, звычайных і незвычайных, простых і няпростых, якія нарадзіліся на пачатку дваццатага стагоддзя, жылі, як хто мог, з зямлі і працы рук сваіх, губляючы ў віракруце дзён і маладосць, і сілу, шчасце і радасць; нехта з іх быў вымушаны ўзяць у рукі зброю і бараніць ад чужынцаў сваё месца пад Сонцам...*

**АЎТАР**

АПОЎДНІ ў Вятроўку станавы прыстаў заявіўся. Брычка лёгкая, на вузка-пукатых рысорах. Конь — чыстакроўны данскі рысак. Дуга ўся ў шамках і бразготках... І да ўсяго — паабапал брычкі жаўнеры-вершнікі гарцуюць. Коні пад імі ўкормленыя, дагледжаныя. Усім на заглядзенне! Ну хто не заўважыць гэткіх прыязджанаў — здалёк, роўна як і зблізку, даюцца ў вочы!

Хведар Крутаяр цікаваў за караганам прыстава праз акно: упёрся лбом у раму — як не выпне з гнязда — і разважае ўголас:

— Займець бы сабе такога, як у прыстава, скакуна!.. — уздыхнуў і адвярнуўся ад акна.

Міхалка, прызнацца, не разумеў клопату бацькі: здаецца ж, не да каня цяпер — ад бяскорміцы ўсё роўна здохне, а не — ваўкі звядуць, іх столькі развялося апошнім часам... Думаў так, не пераставючы сачыць за бацькам, і маўчаў.

Маці непаварушна, як стаілася — ні слова бацьку, ні паўслова — сядзела на лаве, узлокціўшыся на стол. Позірк яе быў скіраваны некуды ў запеч. Іван таксама заціяўся — акурат скамянеў, нібы й няма яго ў хаце. Нават Аўдоля не "ўгыкала" ў падвязаных ночвах-калысцы. Ніхто з сямейнікаў — акурат змовіліся — не замінаў карміцелю думаць.

Нарэшце гаспадар вяла, бы ўшчэнт змораны, прысеў на ўслончык і кажа:

— Корза са сваёй хэўрай прыдубічыў па марцаў збор... Усе пры стрэльбах, з бізунамі. — І нечага раптам так узрушыўся — з чаго б гэта? — што ажно заёрзаў на ўслоне: — Жываглоты, кляшчы-крывасмокі, павукі!..

— А не дзяцінься ты!.. — ачнулася-такі Маланння. — Пойдзеш і скажаш Корзу: "Не маю ані граша..." Ён цябе адпусціць ды яшчэ па галоўцы пагладзіць. На гэта спадзяешся?

— Ды ўжо ж... Самы той — адпусціць.

— Адкуль жа ў нас грашам быць, калі з карчмы не вылазіш!?. Бычка Хвайбусу збыў, а што двору прынёс?.. Тры пятакі ў кішэні знайшла ў хлебных крошках. — І роспачна: — Божа-Божа, што ты сабе, Хведар, думаеш?.. Як жа нам далей жыць, га? Прасадзіў за бычка грошы, і во — Корзу клянеш: сякі-такі, не ў час па марцаў збор заявіўся... Сухадушша адаб'юць — і што ты ім зробіш?

Пра марцаў збор Міхалка, здаецца, і раней чуў, але што гэта за збор, нават і блізка не ведаў. І яму закарцела самому датумкацца, што ды як, бо такое міма вушэй не след прапускаць. Падышоў і сеў ля бацькі, задумліва хмыкнуў і ўрэсцяг сказаў:

— Марцаў збор... Корза прыехаў грошы з людзей выкалочваць, так?.. Накалоціць цэлы зялезны куфар, а пасля ўсё цару здасць. Хто не прынясе — з таго стражнікі шкуру спусцяць.

— Во-во, праўду кажаш, сынок... Да касцей здзяруць! — Маланння нечага аж страпянулася. — Адну шкуру спусцяць, а пасля зноў заявяцца і за другую возьмуцца... І не ўгамоняцца, пакуль сем шкур не спусцяць.

— Плёткамі?.. — Міхалку стала шкада бацьку. Ён спытаў: — Тата, а што ў цара сваіх грошай няма?.. Ён хіба такі бедны, што без тваіх грошай не пражыве?..

Хведар адвёў вочы ўбок і таропка, хвалюючыся, стаў тлумачыць сыну:

— Марцаў збор — гэта штогадовы падатак з нядоімкамі рознымі ды няўстойкамі. Па-мужыцку — збор, а панавукаваму — зямельная рэнта... Мы тры рублі запавінены казне. — Хітнуў галавой, патупіўся. — А тут — ну як на зло! — і аднаго палцінніка няма... З калена не выламіш.

— Схадзі ў Фаіны Ісакаўны пазыч. — Асцярожна параіла Маланння, і Хведар не зразумеў: ці баба ўсур'ёз кажа, ці гэта ейны чарговы досціп. — Яна выручыць, калі паабяцаеш зрабіць пад яе ляўшу спеўную скрыпку.

— Адкуль ты ўзяла, што Хвайбусіха ляўша?

— Людзі кажуць.

— Гм... Здаецца ж, смычок правай трымае.

— Зальеш вочы, таму і здаецца, — абыякава кінула Маланння дый зноў вярнулася да свайго: — А не хочаш пад ляўшу скрыпку рабіць, дык завядзі Хвайбусу баранчыка, гэтага, што на струны росціш... — Адчуўшы, што муж праз сілу стрымаўся і не ўсчаў сварку, больш не стала даймаць, пацікавілася: — І які, скажы, дурань прыдумаў з барановых кішок струны цягнуць?..

— Вялікі майстар прыдумаў!.. — Хведар быў задаволены пытаннем. — Маланння такі нешта пачынае цямрыць: бач, даліся ёй барановыя струны, а ўсяго ж толькі адзін раз і бачыла, як ён іх "цягнуў". Дадаў: — Хто ні прыдумаў, абы скрыпка добра йграла... І вось у тым, што для струн сама што баран-трохгодак, я сам пераканаўся.

— Ад недаеду, глядзі, здохне і баранчык твой, як конь... Сена засталося не болей дзвюх капешак.

— Кажу табе, Маланння, яшчэ раз: конь наш не ад голаду здох — у яго лёгкія ўсе ў нарывах... Прастудзіўся.

— А чаго ж у страўніку было ашчэп'е ад перакладзіны, якую бадай не ўсю згрыз?..

— Ад невыноснага болю ён грыз перакладзіну.

— Не-е, табе скаціну нельга дstation даручаць — не ўмееш уходжвацца...

— А ты хіба ўмееш?..

— Умею... Здадзім баранчыка Хвайбусу — і ўвесь клопат. Але гэты раз грошы я сама ад іх вазьму... Мяне ні Хвайбус, ні Хвайбусіха не спакусяць на чарку.

— Не ўгаворвай... Струнка нікому не аддам, — засяроджана-цвёрда сказаў Хведар.

Тут якраз і дзесяцкі пагрукаў у шыбу і хрыпата, як стары певень, пракрычаў:

— Пархвенавіч, гатуй грошы — іх высакаблагародзіе вялелі ў зборню прыйсці!.. — Сказаў і як не трухам пашыбаваў да наступнае хаты, каб і там задаць людзям клопаты.

Міхалка глядзіць на бацьку і не пазнае: белы з твару, разгублены. Здрэйфіў. І не дзіўна: з пустымі рукамі ў зборню няма як ісці, небяспечна. Ухіліцца таксама не ўдасца — стражнікі насілкам завалакуць і адпялегаюць так, што пасля сваім ходам і да роднай хаты цяжка будзе дабрысці. Нездарма ж сам Мітрафан Корза прыбыў, царскі баявік — так празвалі яго за празмерна-шчырую службу цару-бацюшку.

— Збірайся, пойдзеш са мною, — сказаў бацька да Івана, сына-першынца. — Усё-ткі не адзін буду — пры сведках, думаю, не стануць рэбры ламаць.

— Не-е, тата... Я не пайду.

— Гэта чаму ж?

— Корзы баюся...

— Што табе Корза? — пахмурыўся бацька. — Ты мяне бойся.

— Ага ж... У яго ляворвер у кабуру і шабля доўгая пры боку ў бліскучай похве.

— Што нам яго доспехі?.. — Хведар глядзеў на сына так, нібы ўпершыню бачыў: уражана і непаразуменна. — Не выдурвайся, хадзем... Кажу ж, нам удвох будзе ямчэй трымацца.

— Не пайду!.. — Наадрэз адмовіўся Іван; ён такі, убоіна: як сказаў — так і зробіць, да ўгавораў глухі, хоць ты яму спіну дзягай ссіні.

Агарошаны, бацька сплюнуў і звярнуўся да Міхалкі:

— А можа, ты, Міхал, пойдзеш са мной?

— Я ж босы, тата... — Міхалка кіўнуў у бок надзьмутага Івана і не без зайздрасці дадаў: — Былі б у мяне такія лапці, як у яго, то я і па дровы з вамі ездзіў бы.

— Будуць у цябе лапці!.. — Бацька павярнуўся да Івана і загадаў: — Разувайсь-ка!.. Дарма я табе лапці плёў. — Сурова калыхнуў густа-яршыстымі брывамі: — Відаць, не цябе, а во яго, — паказаў на Міхалку, — трэба вучыць. — І выйшаў з хаты.

Іван неахвотна, але аддаў-такі свае новыя лапці меншаму брату, ды яшчэ з анучамі — белымі, са старога набожніка, тканага ў шэсць нітоў.

Міхалка абуўся хутка, і хоць лапці давялося троху загнуць ажно за пяту, узрушана-радасны выбег на вуліцу і дагнаў бацьку, калі той ужо мінаў хату Сілівона Таптуры.

У зборню прыйшлі, як ні дзіўна, першымі.

Станавы прыстаў, падпалкоўнік Корза, убачыў іх і голасна ўсклікнуў:

— У-у!.. Хто да нас пажалывал?!. Сам Крутаяр, хранічны неплацельшчык... Хвалю, лёгак на паміне. — Пасміхнуўся. — Ну-с, архаравец, трошніцу з палцінні-кам — на стол і — кругом эрш!..

— Ваша благароддзе, а чаму шчэ і палціннік?.. Адкуль ён вылез?.. Хіба нядоімка нарасла? — Крутаяр прамаўляў усё гэта так, нібы ў яго тры рублі ёсць, адно праклятага палцінніка няма. — Палціннік... Ён на дарозе не валяецца.

— Мітрафан Ігнатавіч, з Крутаяра, можа, скасуем пеню?.. Усё ж, бачыце, першы прыйшоў... Зробім выключэнне. — Заступіўся дзесяцкі, чаго, прызнацца, Корза не чакаў і нават узбурыўся троху, але тут жа адпусціўся.

— Сыгласін. — Мільгам зіркнуў на засяроджана-сцішанага Крутаяра-малодшага, Міхалку, і зноў утупіў пранізліва-цяжкі позірк у Крутаяра-старшага, бацьку. — Ну-с, кладзі свае тры рубля на стол.

— Ваша благароддзе... — выціснуў з сябе зніякавелы даўжнік. — Вы хоць бы паведамлялі, калі вас чакаць... няма ў мяне грошай. От, каб дазволілі, дык я, можа, прабягуся па вёсцы, а раптам хто выручыць?..

Твар Корзы хіжа перасмыкнуўся і вокамгненна збарвавеў. Стражнік-вусач, мардаты (твар пабіты воспай), з тоўстаю — бычынай — шыяй, неўпрыкмет надышоў і стаў позаду бацькі і сына, затым рэзка крутнуўся на абцасах і замашна сунуў кулаком Крутаяру-бацьку ў твар. І той ледзь не абрынуўся быў на стол, за якім сядзеў Корза, але правай рукою хапіўся за брыж сталешніцы, утрымаўся; пры гэтым яго хіснула так, што апынуўся вочы ў вочы з Корзам, які — от гэта баявік! — не ўпусціў момант і моцна садануў Крутаяру кулаком чуць вышэй жывата, у сонечнае спляценне... Нябогу заняла дых і ўсяго сагнула ў крук.

Міхалка ўбачыў, як Корза (каб зноў ударыць?) пагрозна пасунуўся на бацьку, прыгаворваючы:

— Я цібя, хамло, абразумлю!.. Ты каго ўзялсі дурыць?!.

— Э-э-э!.. — прарвала Міхалку на крык. — Гад!.. Корза паршывы!.. Гад!.. Не смей майго татку біць!.. — І кінуўся таўчы прыстава кулакамі ў жывот. Падскочыў стражнік — адцягнуў драчуна ў парог. — Я вырасту... Вырасту!.. — Не змаўкаў маленькі змагар. — Я ўсіх вас пастраляю, гады!.. — Пры гэтым ён укусіў стражніка за руку, за што зарабіў балючага кухталя ў спіну і не менш балючага выспятка ніжэй спіны.

Няцямна лыпаючы вачыма, уз'юшаны стражнік-вусач ледзьве ўтрымліваў Міхалку-вертуна за каўнер старога, усяго на лапіках армяка, і запытальна глядзеў на Корзу.

— Вон яго!.. — гаркнуў Корза і апусціўся ў крэсла, закінуў правую нагу на левае калена. — За аказанне супраціўлення ўладам — аштрафаваць... Абодвух!

Стражнік злаўчыўся і так моцна штурхануў у спіну Міхалку, што ляцеў той у парог, як на крылах. Другі стражнік, які стаяў на выхадзе, відаць, пашкадаваў мальца — улучыў схапіць яго аберуч і гэтак, можна сказаць, ўратаваў ад удару галавой у дзверы. Ён жа і выпіхнуў яго вонкі.

Дахаты Крутаяр-малодшы не пабег — тут жа кінуўся да акна і стаў дубасіць кулаком па раме, яшчэ заўзятней крычучы:

— Лю-юдзі-і!.. Рату-уйце! Супастаты майго татку б'юць!.. Ы-ы-ы... — Заплакаў наўзрыд, не забываючыся, аднак, і на Корзу — праклінаў супастата на чым свет стаіць: — Гад печаны!.. Трубло пузатае!.. Крывасмок!..

Маладзейшы стражнік, гэты самы, што не даў Міхалку выцяцца аб дзверы, увоміг выскачыў з хаты, хапіў крыкуна за рукаў, троху адвёў ад зборні і стаў ушчуваць:

— Ты, гэта, чаго падняў голас на ўсю вёску?!. У турму просішся — як паліцічаскі, так?.. Ды за аскарбленне падпалкоўніка цябе запраста ў Сібір адправяць, не паглядзяць на ўзрост, — страшыў Міхалку стражнік, які быў з выгляду зусім яшчэ юнак.

— А ім хто дазволіў біць нас?!. — Міхалка рвануўся — думаў, стражнік будзе трымаць яго, а той адпусціў, і ён зарыўся носам у закаржэла-хлюпкую снежную куламесу. Падхапіўся — і зноў у крык: — Адпусціце татку майго, крывапійцы!..

— Бяжы двору, бузацёр, — памяркоўна-цярпліва, без запалохаў, сказаў стражнік. — За бацьку не турбуйся — яго адпусцяць. Пастрашаць, каб не лавіў варон... На яго ў нас данос ёсць — з карчмы не вылазіць... Гэта праўда?

— Не ведаю...

— Усё ты ведаеш... Дык вось: грошы твой бацька на гарэлку аднекуль бярэ, а падаткі сплочваць не надта рупіцца... Таму і падпаў пад прафілактыку. — І ўжо не ўгаворваў — папрасіў: — Давай-ка, бяжы дахаты... Ты ж бачыш, я з табой не варагую. Думаеш, стражніка Галопенку прыстаў дарма з сабою бярэ?.. Каб ты ведаў — ён у яго за цівуна: калі пусціць якога мужыка ў дзверы, дык той ужо сам не ўстане... Гэта яго каронны прыём. І цябе, каб не я, вынеслі б са зборні напаўжывога.

Стражнік Міхалку прыглянуўся — малады, няйнакш яшчэ не навучыўся біць людзей. І не глядзіць зверам, не дзярэ гарляк.

— Без таткі дамоў не пайду!..

— Тады стой тут і чакай.

— Буду стаяць... — троху суціх, паспакайнеў Міхалка.

Стражнік узышоў на падворак, азірнуўся. Пасля няспешна дастаў з брычкі торбу з аўсом, паднёс яе пад храпы свайму каню, гладкаму — увесь ільсніцца!— чорнаму мацаку, і прычапіў за аброць. Конь фыркнуў і стаў есці.

Хведар Крутаяр доўга не затрымаўся ў зборні — яго выштурхнулі, як і сына, вонкі, загадаўшы, каб праз гадзіну вярнуўся і разлічыўся з казной. Ён выйшаў без шапкі, стаў і азіраецца. Не адразу ўбачыў Міхалку. Сын падбег да яго. Якраз у гэты момант у сенечных дзвярах паўстаў стражнік Галопенка, па мянушцы Шкрэд, і кінуў Хведараву аблавушку ў чорны ад конскага навозу снежны сумёт. Міхалка ўхапіў шапку і аддаў бацьку.

Ужо калі добра адышліся ад зборні, Хведар пахваліў сына:

— Малайчына ты... Ну проста герой — ўратаваў мяне, выручыў. Але навошта было Корзу зневажаць?.. Ён за гэты твой выпад штраф нам упіліў — цяпер ажно пяць рублёў прыйдзецца плаціць...

— Пяць?.. — уражана перапытаў Міхалка. Ён бачыў: бацька не злуе, наадварот — усцешаны ім. І не дзіва: чаго сам не сказаў Корзу, тое выказаў ён, Міхалка.

(Працяг на стар. 12)

## Студэнцкі эстрадны

**У зале Беларускага універсітэта культуры адбыўся канцэрт студэнцкага эстраднага ансамбля пад кіраўніцтвам дацэнта кафедры народна-інструментальнай творчасці Васіля Глубачэнкі.**

**Новыя песні В. Глубачэнкі "Пазнаёмімся" (словы Я. Янішчыц), "Ты пакліч мяне", "Вішнёвая завея" (сл. У. Мазго) ды інш — удала і натхнёна выканалі студэнткі Аксана Кавалёва, Дзіяна Дзмітровіч і сам аўтар. У гэты вечар заўзята спявалі па-беларуску, па-руску ды па-французску. Свежасць рэпертуару, яркая, выразная інструментоўка, высокі прафесіяналізм ансамбля ў складзе Васіля Глубачэнкі (баян, вакал), Андрэя Шчыткаўца (бас-гітара), Дзяніса Гольцэра (кларнет), Аляксандра Рабізы (ударныя) стварылі ў зале ўзнёслы, святочны настрой.**

**Уладзімір САВІЦКІ**

## Свой фальклорны калектыў



**Вялікай папулярнасцю ў школьнікаў са Старых Дарог карыстаецца клас харэаграфіі Дзіцячай школы мастацтваў. І ў гэтым заслуга выкладчыка-харэографа Вольгі Мікалаеўны Барташэвіч — чалавека, улюбёнага ў сваю справу.**

**На здымку: Вольга Мікалаеўна Барташэвіч праводзіць рэпетыцыю фальклорнага калектыву.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## У "Хацемайстэрні"



**Любяць праводзіць свой адпачынак жыхары вёскі Старыя Дарогі ў "Хацемайстэрні", якая дзейнічае пры Старадарожскім сельскім Доме культуры. Будавалі яе ўсёй вёскай, Калгас даў будаўнічыя матэрыялы, а мэблю, кросны, прасніцу і іншыя прадметы старога народнага побыту сабралі аднавяскоўцы.**

**Кіраўнік майстэрні Людміла Мікалаеўна Клюбко і метадыст па народнай творчасці Валянціна Леанідаўна Спадар здолелі зацікавіць і дзяцей, і дарослых народнай творчасцю. Тут заўсёды шматлюдна — кожны знаходзіць сабе занятак па душы: вышываюць, вяжуць, плятуць макрамэ. Вечарамі ва ўтульнай абстаноўцы прыемна сабрацца і на спеўкі.**

**На здымку: васьмікласніца Света Двароўская ўжо тры гады займаецца ткацтвам пад кіраўніцтвам майстрыхі Аляксандры Аляксееўны Праташчык.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

***Не падаць пад цяжарам, пад уціскам трагедыі, а ўзняцца да яе, зраўняцца з ёю значнасцю й годнасцю... Артысты і пастаноўшчыкі, сённяшнія людзі, уздымаюцца, раўняюцца, — так што на нейкі момант робяцца больш значнымі за сваіх герояў, — у спектаклі "Князь Вітаўт" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Манументальная значнасць, гістарычная адпаведнасць творцам і выканаўцам рупіць якраз менш за ўсё; не з тэксту Аляксея Дударава, але з яго драматычнага ладу і парадку, падтрыманых рэжысёрам Валерыем Раеўскім, вынікае адметны мастацкі парадак у спектаклі. Шматлікія перапрацоўкі п'есы, пэўна, даліся ў знакі. Яшчэ нядаўна можна было сказаць: самым дакліўным месцам спектакля выяўлялася тое, што персанажы прамаўлялі. Купалаўцы спанатрана абчасалі, абгаблявалі шурпатыя радкі рытмізаванай прозы, адмысловай спадарожніцы парадку ў класічных трагедыях. Купалаўскі спектакль — дыялог дарагіх нам ценяў. Дыялог культур, да якіх тыя належалі. Спадчына, якая ажывае ў нас, праз нас у самых непрымірамых, самых неадназначных сваіх частках. Спадчына той гістарычнай велічы (натуральна, прыдуманая, уяўленая ды ўвасобленая), якую яшчэ трэба адваяваць у гісторыі. Валерыю Раеўскаму, падобна, наканавана адваёўваць гэтае мінулае па каліву і не збочваць: усе ягоныя найбуйныя поспехі грунтуюцца на нацыянальнай драматургіі. На драматургіі Аляксея Дударава ў тым ліку. Цяпер — перадусім.***

# ...Упоравень з драмай, роўнай трагедыі

...Я спрытна пераказваю Андрэ Мальро ў звязку з адваёвай мінулага з заўважнай карысцю для асобна ўзятага спектакля "Князь Вітаўт": шаноўны француз нібыта прадвызначыў рацыю беларускіх тэатральных пастаноўшчыкаў. Яшчэ паўстагоддзя таму. Наследуючы Мальро (міжволі), мы аднаўляем якасць свету, атрыманага ў спадчыну, сродкамі культуры. Адваёўваем ("мінулае трэба адваяваць"). Літаральна — пераўвасабляем, бо "спадчына — гэта пераўвасабленне"... Бо "тэатр, магчыма, самы магутны і надзейны сродак адраджэння краіны; тэатр, як барометр, фіксуе ўздымы і падзенні нацыі. Чуйны, відушчы тэатр... здольны ў лічаныя гады перайначыць вобраз мыслення цэлага народа..." Вы патрапіце запярэчыць Лорку? Лорку, які меркаваў, што паходня паэта — змаганне? Раеўскі і Дудараў выйшлі з сэрцам, як з паходняй...

Да "Князя Вітаўта" ў ягоным найтэатральным атачэнні, здаецца, мог бы знайсціся яшчэ адзін-другі варыянт... сцэнарыю. Мантажны аркуш. Не макет сцэнографа, а выштукаваны мастаком кіно павільён. Структура спектакля, прыёмы рэжысёра і ягоная манера абыходжання з літаратурай, спосаб акцёрскага існавання, здаецца, толькі рухаліся-блукалі па тэатральных пераходах... Выблукалі да спектаклю-кліпу са стоп-кадрамі, паўторамі, рэтраспекцыямі, планамі агульнымі ды буйнымі, паклікаўшы пэўна абноўленую тэатральнасць. Як тэнар з барытонам у класічных операх, разведзены й злучаны ў спектаклі Вітаўт з Ягайлам. Водгулле класічных балетных выхадаў — у з'яўленні Вітаўта, Ягайлы, Ядвігі, Ганны ў атачэнні замкавых паненак; у сцэнах збройных — гарадзенскіх, віленскіх, трокскіх; у сцэнах лірычных — купальскіх... "Князю Вітаўту" ў спіну, здаецца, уздыхае елізар'еўская Рагнеда ("Страсці"). "Рагнедзе" выпала ўвасобіцца на балетнай сцэне пасля купалаўскага спектакля "Звон — не малітва" паводле М. Чыгрынава (рэжысёр апошняга, Генадзь Давыдзька, заняты ў ролі князя Вітаўта). Тэлефільм "Пастка для зубра" і рэжысёр Віктар Шавялевіч выкшталцілі для купалаўцаў выбітнага Ягайлу (Мікалай Кірычэнка, варты выканаўца, патрапіў і на экране). Натуральна, — спектакль на купалаўскай сцэне (драматычны спектакль!) не зазнаваў яшчэ такога зліву, змяшання, злучэння відаў мастацтва. Калі драма, такая адметна дэмакратычная, на вачах перакідаецца ў пэўна элітарную, вымагае абазнанасці ў героях ды падзеях (як опера ды балет — знаёмства з лібрэта). Праграмкаю да спектакля (яе мастацкім афармленнем і тэкстам) заяўлены нават сцэнічны эпілог з вынасам



*Генадзь Давыдзька (Вітаўт).*



*Мікалай Кірычэнка (Ягайла).*

палоў Вітаўтавай кароны... "Князь Вітаўт" вымагае глядацкага саўдзелу толькі на грунце дасведчанасці розуму і сэрца... У роўнай ступені. Другі ці трэці прагляд спектакля можа змяніць радасць першаадкрыцця на асалоду пазнавання, асалоду ведання, — ці не таму публікі прыбывае і прыбывае?

Жорсткае, мулкае рэжысёрскае абыходжанне з матэрыялам драмы, дарагі лаканізм касцюмаў, сцэнаграфіі, пастановачных сродкаў выдае на вяртанне тэатральных рыцараў таганкаўскага гарту. Юрый Любімаў мроіцца якраз за плячыма Валерыя Раеўскага (я сціпла маю на ўвазе партрэт Любімава над сталом купалаўскага мэтра).

"Уяўляць — рухацца, кідаць драбок свайго святла ў жывую цемрадзь..." Крок, рытм, поступ спектакля зададзены рухам сцяны памерам з люстра сцэны, складзенай з шырмаў-жалюзі ў двух узроўнях; на зачыненых шырмах — цьмяныя абліччы святых і летапісных выяваў Вялікіх князёў. Шырмы дакладна адбіваюць рытм спектакля, мяняюць карціны, час, месца дзеяння (месца дасціпна й проста абвяшчаецца праз фанаграму), — нават тагасвеццe, куды вядуць забітых беражніцы. У сукупнасці з работай мастака Барыса Герлавана ўражвае і работа кампазітара Віктара Капыцько (найвыбітныя — сцэны Купалля і крэўскага вызвалення Вітаўта, сцэна Вітаўтавай прысягі, адметны — лейтматыў бязлітаснага часу ў перазовах званоў). Менавіта пад жорсткі метр лейтматыву рухаецца сцяна на колькі тон жалеза і дрэва; сцяна-гісторыя, сцяна-памяць або прапамяць, нарэшце, сцяна-лёс, што падмінае жыццейкі ды жыцці, прасуе, сціскае час. Паводле нейкай асацыяцыі сцяна на нейкі момант нагадае калумбарый, у чыіх вокнахпраёмах ажываюць гістарычныя постаці. Не замарудзіўшы, яны кранаюцца, выходзяць на авансцэну, да гледача (перад звыклай авансцэнай мастак асталяваў яшчэ адну пляцоўку, заняўшы колькі месцаў партэра). З кожным выхадам выносяць новую падзею, — тыя дзейсна, знітаваныя ў сціслую, ёмістую фабулу. Вітаўт (пасля купальскае ночы — атмасфера! настраёвасць!) паўстае перад чарговай зламыснасцю, здрадай: "Ягайла ў Вільні. Рыцары ў Троках..." Спружына дзеяння заведзена і сціснута; карціны імкліва змяняюць адна адну. Мізансцэны, па бальшыні сваёй, скупа-франтальныя; умова акцёрскай работы — пафас...

Пафас, надараецца, псуе справу, бо тэксты персанажаў пададзены без літаратурнай



*Зоя Белахвосцік (Алена) і Галіна Фёдарава (Ганна).*



*Павел Дубашынскі і Арнольд Памазан (Сяляне).*

## Каб лепш пазнаць сябе

**Наклад гэтых двух дапаможнікаў абмежаваны — усяго па сто паасобнікаў кожны. Яно і зразумела, бо выпушчаны яны, так бы мовіць, для вузкага карыстання. У асноўным для студэнтаў Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, які і даў жыццё кнігам. "Беларусазнаўства", аўтарамі якога з'яўляюцца М. Верабей і С. Новікаў, уяўляе сабой метадычныя рэкамендацыі для самастойнай работы студэнтаў педагагічнага факультэта, а "Асноўныя этапы станаўлення беларусазнаўства", напісаныя тым жа С. Новікавым, выйшлі ў серыі "Лекцыі выкладчыкаў". У дапаможніку прасочваюцца асноўныя перыяды развіцця і станаўлення беларусазнаўства як навукі.**

## Як духоўнае ачышчэнне

**Чарговы раз памяшканне Беларускага дзіцячага фонду ператварылася ў выставачную залу. Увайшоўшы ў яго, адразу запыняеш позірк на шматлікіх карцінах, вывешаных на сценах. Гэта творчую справаздачу перад наведвальнікамі фонду трымае мастак Уладзімір Голуб. Экспазіцыя невыпадкова размясцілася менавіта ў гэтым памяшканні. У. Голуб нарадзіўся на Брагіншчыне, у кутку беларускай зямлі, які асабліва пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы. Беларускі ж дзіцячы фонд вельмі шмат робіць па рэабілітацыі тых, на каго аказала ўздзеянне чарнобыльская радыяцыя. Творы У. Голуба — таксама свайго роду лекі. Калі знаёмішся з яго работамі, дабрэеш душой і ачышчаешся сэрцам.**

## Ствараецца музей



**14 студзеня група грамадскіх дзеячаў Ізраіля, якая знаходзілася ў гэтыя дні ў Мінску, наведала студыю вядомага беларускага скульптара, народнага мастака СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура, дзе ствараецца мемарыяльны музей скульптара. Пасля смерці мастака сям'я передала ў музей усе яго работы.**

*На здымку: падчас наведання мемарыяльнага музея-студыі Заіра Азгура.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Занатаваў нябачанае

**Яфім Садоўскі, з дня нараджэння якога споўнілася 90 гадоў (1908—1993), літаратурную дзейнасць пачаў у 1923 годзе з вершаў (у 1927 годзе выйшаў паэтычны зборнік "Полустанок" (разам з Г. Ладным). У далейшым Я. Садоўскі пісаў па-руску і па-беларуску, перайшоўшы на прозу і дакументалістыку. У даваенны час выдаў шэраг кніг, сярод якіх "Скрыпка і ордэн", "Я вижу", "Рукамі ўдарнікаў", "Записки молодого бойца", "Раўняцца па героях". У дваццатыя гады Я. Садоўскі быў членам групы рускіх літаратараў "Звенья", з'яўляўся супрацоўнікам газет "Савецкая Беларусь", "Рабочий", "Советская Белоруссия", у 1930—1931 гадах служыў у арміі. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны — ваенны журналіст на Заходнім і Цэнтральным франтах, у 1943—1970 гадах — супрацоўнік газеты "Советская Белоруссия". Выступаў галоўным чынам у дакументалістыцы, выдаў гісторыка-краязнаўчыя нарысы "По историко-революционным местам Минска", "Их именами названы улицы Минска". Склаў зборнікі "Маякоўскі ў Беларусі" і разам з К. Цвіркам — "Успаміны пра Змітрака Бядулю". Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў "Наваселле", "Па малых рэках" і казкі для лялечных тэатраў "Выспа мудрасці", якая ў свой час была пастаўлена.**

# Запісы розных часоў

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

### "ІНТЭЛІГЕНТЫ"

Якая высакамерная фанабэрыя ў некаторых мінскіх паноў "еўрапейцаў"! Мала таго, што правінцыйнай, дзік і "дапатопна-першабытнай" абзываюць яны філасофію тых, хто бароніць беларускую мову, адраджае нацыянальную культуру, гісторыю свайго народа. Весці з такімі апанентамі спрэчку немагчыма — ты загадзя аб'яўлены прымітыўным, абмежаваным абывацелем. Паспрабуй перакрыць! Пальцам каля скроні круцяць.

Ну, а калі адмесці ўсякую падобную шавіністычную пыху — усё становіцца ясным, як божы дзень. "Выкіньце, беларусы, з галавы думку, што ваша мова зойме тут становішча гаспадыні! Гаспадыняй тут на векі-вечныя будзе мова руская, бо так хочам мы, бо так выгадна нам! І мы зробім усё, каб даказаць, што гэта нявыгадна самім беларусам, што гэта сам беларускі народ не хоча, каб яго мова стала гаспадыняй ва ўсіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі".

Канешне ж, гэтае адмаўленне 10-мільённаму славянскаму народу ў яго свяшчэнным праве жыць сваім уласным нацыянальным жыццём — праява высокай інтэлігентнасці. Канешне ж, гэта філасофія — не на ўзроўні "першабытнага", "магіка-татэмічнага" мыслення. Гэта — сапраўды еўрапейскі ўзровень: і што да культуры, і што да дэмакратычнасці, і што да інтэлектуальнасці... Адным словам — Еўропа, чыстая Еўропа! Амаль што на ўзроўні Гебельса. Зусім мала не дацягваеце да яго, панове інтэлігенты. Ну, вы яшчэ пастараецеся, перспектыва для росту ёсць.

*1992*

### ЯШЧЭ ТРЭБА ДЗІВІЦЦА...

Быў час, калі пісаць і публікаваць вершы ў гонар рэвалюцыйных свят было не сорамна, грамадскасцю гэта не ўспрымалася як нешта непрыстойнае, не вартае годнасці творцы. Праўда, пры ўмове, што паэт не злоўжывае такой одапіссю. Гэтак жа натуральна і шчыра, як і пагалоўная большасць насельніцтва, паэты святкавалі чырвоныя даты календара, гэтак жа радаваліся ім і віталі іх узнёслымі, урачыстымі вершамі. Лічылася за гонар — пісаць пра слаўныя падзеі недалёкай гісторыі народа і краіны. Падзеі, якія ўяўляліся надзвычай значнымі, велічнымі і несумненна справядлівымі. Зрэшты, чаму б і не адгукнуцца і не паразважаць у вершы пра сэнс і значэнне пэўных гістарычных падзей?

Рэч, аднак, у тым, што асэнсоўваць чырвоныя даты самастойна ніхто з паэтаў не меў права. За іх гэта зрабілі іншыя — правадыры рэвалюцыі, ідэолагі пралетарскай дыктатуры і камуністычнага будаўніцтва. Паэтам пакідалася толькі права ўслаўляць і велічаць падзеі, даты, імёны новай эпохі, тварыць урачыста-святочную рыторыку. І было такога вершаванага дабра напісана-натворана ўга колькі! Толькі ў Беларусі, бадай, можна было б назбіраць яго не менш як на дзесяць тамоў — вершаў і паэм пра Кастрычнік, пра Партыю, пра Леніна, Сталіна і іх паплечнікаў, пра новыя, савецкія святы. Паглядзіце аднатомнікі нашых паэтаў, выдадзеныя ў 1952 годзе — да Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. У кнізе М.М., напрыклад, звыш паўтары сотні вершаў і ў кожным трэцім з іх ёсць імя Сталіна, — канешне ж, у велічальным кантэксце. Можна ўявіць, якое, з аднаго боку, было жаданне дагадзіць, выслужыцца, а з другога боку — які быў страшны страх, каб цябе не западозрылі ў недастатковай вернасці Правадыру. Лепей яшчэ і яшчэ раз пакляссціся яму, асяніць сваё пісанне ягоным імем. Тым больш, калі тваё "заходне-беларускае" мінулае з пункту гледжання ідэолагаў ЦК КПБ (а значыць і КПСС) не зусім бясспрэчнае.

Не бачыць ва ўсім гэтым трагедыі цэлых пакаленняў беларускіх паэтаў было б звыш несправядліва і недаравальна. Нехта можа сказаць: а чаму трагедыя? Ці такі ўжо гэта вялікі грэх — пакланенне ў паэзіі правадырам краіны, праслаўленне іх дзяржаўнай палітыкі? А хіба вялікія паэты старажытнага Усходу не жылі пры дварах уладыкаў і не славілі іх у сваіх вершах? А хіба Дзяржавін не складаў оды ў гонар імператрыцы? А хіба ў Пушкіна няма апалагетычна-імперскага "Паклёпнікам Расіі"? А хіба геніяльны Цютчаў не пісаў нешта падобнае? І ніхто не лічыў і не лічыць гэта іх трагедыяй, і ніхто не ставіць ім гэта ў віну. Помнячы тое несмяротнае, што яны зрабілі для Слова, для Культуры, для Чалавецтва. Так, для іх трагедыі ў гэтым не было. Бо не адбывалася калечання іх душ. Іх оды і гімны ў гонар цароў-імператараў і шахаў былі прысвечаны патрыётам краіны, творцам і абаронцам дзяржаўнай магутнасці і славы. А каму прысвячалі свае оды і гімны беларускія паэты? Каму?! Заклятым ворагам Беларусі, беларускага народа, яго свабоды, яго мовы, яго культуры, яго нацыянальнай славы. У гэтым — уся сутнасць іх творчай і чалавечай трагедыі. Замест таго, каб ненавідзець і праклінаць забойцаў беларускага нацыянальнага духу, далакопаў беларускай мовы і культуры — паэты складалі ім песні ўдзячнасці і прызнання, пісалі ў іх гонар узнёслыя панегірыкі. Цягам доўгіх гадоў верачы, што ўсё нядобрае — антыбеларускае, антынароднае, што ім балела, што іх мучала, — адбываецца не па віне правадыроў і хутка мінецца. Чакаючы і чакаючы, што свята на беларускую вуліцу нарэшце прыйдзе. І ўсё больш раздвойваючыся душой — пад ціскам таталітарнай афіцыйнай хлусні, крывадушша, цынізму. Яшчэ трэба дзівіцца ды дзівіцца, што ў такіх жахлівых умовах паэты ў большасці сваёй заставаліся людзьмі і паэтамі, што і тады пад іх пяром нараджалася столькі выдатных — сумленных, чалавечных, высакародных — паэм і вершаў, і што тых, іншых, якія пісаць было не варта, у сапраўдных паэтаў зусім не шмат і зусім не яны вызначаюць іх творчае аблічча, іх месца і значэнне ў літаратуры.

*1992*

### ШТО ЗРАБІЛАСЯ З НАМІ?

Чытаю ў вялікай афіцыйнай газеце: "Что касается отношения к английскому языку — здесь проблем нет: надо изучать". Чытаю трохі ніжэй: "Очень сложная проблема отношения к белорусскому языку".

Вось так: з адносінамі да англійскай мовы ў Беларусі праблем няма. Праблемы ёсць з адносінамі да беларускай мовы ў Беларусі.

Удумайцеся, шаноўныя грамадзяне! Якой бы вы ні былі нацыянальнасці — удумайцеся і адкажыце самі сабе на пытанне: што ўсё гэта значыць? Адносіны да мовы сваёй зямлі, да сваёй роднай мовы — праблема? Ведаць ці не ведаць, шанаваць ці не шанаваць беларускую мову ў Беларусі — праблема? Для каго — праблема? Хто ператварае гэта ў праблему? Дзе ў свеце, у якой краіне ёсць такая праблема? Адносіны народа да сваёй уласнай мовы, да свайго галоўнага духоўнага скарбу — праблема? Падкрэслю: народа дзесяцімільённага, мове якога, пісьменству якога — больш тысячы гадоў!

Што зрабілася з намі — грамадзяне, суайчыннікі, таварышы? Многія з тых, што "ствараюць праблему", выказваюць незадавальненне, абураюцца: ды што вы падымаеце шум з гэтаю беларускай мовай? Ішоў натуральны працэс збліжэння культур— ну і няхай ідзе спакойна далей! Адным словам: глядзіце, як гіне ваша мова, і маўчыце. Не падымайце шуму, не пратэстуйце, не бунтуйце! Нам падабаецца, калі вы сыходзіце ў небыццё ціха, без эксцэсаў. Так, каб аднойчы чалавецтва спахапілася — а вас ужо няма! Звяліся-пераваліся! Зніклі!..

Знікне тады, зразумела, і "праблема".

*1993*

### МІЖ ЦАРКВОЙ І КАСЦЁЛАМ

Адзін з кіраўнікоў Саюза палякаў Беларусі публічна заявіў: "Касцёл быў, ёсць і будзе толькі польскім і ніколі беларускім не будзе!" Самаўпэўнена і катэгарычна — аж занадта! Хоць на транспарант занось! Лозунг дый толькі! Ну, а калі без шавіністычнай пыхі і фанабэрыі?..

Па-першае, і ў Беларусі дакастрычніцкай, і ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй былі касцёлы і беларускія з вельмі патрыятычнымі беларускімі ксяндзамі (Стэповіч, Станкевіч, Гадлеўскі і многія іншыя). Па-другое, ёсць беларускія касцёлы і сёння. Па-трэцяе, што да будучыні, то, як гэта кажуць, пажывём-пабачым. Я, напрыклад, не сумняваюся, што колькасць беларускіх касцёлаў будзе расці, — па меры росту нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства.

Тым не менш, вось такая ваяўнічая заява зроблена, і трэба думаць, не адзін раз. І зроблена, падкрэсліваю, чалавекам не выпадковым, не нейкім незнаёмым з вуліцы. Чалавекам, які ўвасабляе польскі грамадскі рух на Беларусі і вызначае яго тэндэнцыі. Як жа загадаеце нам, беларусам, рэагаваць на гэта? Ніяк? Прапусціць міма вушэй? Дык з боку кіраўніцтва Беларусі менавіта такое "рэагаванне" і будзе; махне рукой — і толькі. Бо, на яго думку, якая розніца, хто нас, беларускіх ахламонаў, будзе асіміляваць — ці царква, ці касцёл? Нам і так і так добра — абы нас паганялі бізуном ці палкай.

Заяву актывіста Саюза палякаў я ўспомніў, калі глядзеў па тэлепраграме "Крок" перадачу пра будаўніцтва каталіцкага манастыра ў Беларусі. Нічога не маю супроць будаўніцтва кляштара: калі ёсць людзі, якія адчуваюць у ім патрэбу, значыць, ён павінен быць. Але натуральна ўзнікае пытанне: а на якой мове ён будзе працаваць? Ён будзе беларускі ці польскі? Пытанне гэта вельмі і вельмі сур'ёзнае. Мы абвясцілі грандыёзную праграму нацыянальнага адраджэння Беларусі — не толькі дзяржаўна-палітычнага, але і духоўна-культурнага. І нам зусім-зусім не ўсё роўна, ці будуць у гэту праграму ўпісвацца цэрквы і касцёлы, ці не будуць. Ці яны будуць супрацьстаяць нашаму нацыянальнаму адраджэнню? Аддадзім дзетак беларусаў-каталікоў польскаму касцёлу, які працуе на польскай мове, — і з іх там будуць выхоўваць палякаў, як гэта было ў Заходняй Беларусі. Там ім не скажуць, што яны — беларусы і што іх родная мова — беларуская. Там іх не заахвоцяць да вывучэння беларушчыны і да патрыятычна-беларускай чыннасці. Не, польскі касцёл нашых дзетак беларускасці не навучыць! Гэтаксама, як, з другога боку, не вучыць і не навучыць нашых дзяцей беларускасці руская праваслаўная царква, у тым ліку і нядзельныя школы, якія адчыняюцца і пачынаюць працаваць пры праваслаўных храмах.

Дык як жа быць, шаноўныя спадарыпанове? Будзем і далей глядзець на ўсё гэта скрозь пальцы? Скрозь пальцы па-халуйску зразуметага інтэрнацыяналізму? А на гэтак званы "беларускі нацыяналізм", г. зн. на любоў і пашану да беларускай мовы, на ідэю незалежнасці Беларусі, — будзем глядзець, вырачыўшы ад страху вочы?

*1993*

### ДЫК ПАВІНШУЙМАСЯ!..

Быў час, калі ў канцэртах са сцэны і па радыё гучалі ў сольным выкананні дзесяткі два, не больш, адных і тых жа беларускіх народных песень. Кожны спявак (за выняткам, бадай, Л.П. Александроўскай) меў у сваім рэпертуары адну-дзве — адчэпнага, каб пры выпадку сказаць і тым апраўдацца: "Калі ласка! Вось вам і беларускае нацыянальнае!" Натуральна, амаль усе гэтыя выканаўцы былі людзьмі прыезджымі, беларускай мовы не ведалі і не хацелі ведаць, беларускі фальклор таксама цікавіў іх мала, захапіцца ім па-сапраўднаму, як ён таго заслугоўваў, жадання ў іх чамусьці не абуджалася. І так цягнулася вельмі доўга — не гадамі, а дзесяцігоддзямі. Песні, якія яны выконвалі, былі не з горшых, а некаторыя нават і выдатныя. Але ж добрых і выдатных песень у беларускім фальклоры тысячы, а дакладней — дзесяткі тысяч. Толькі ў зборы М. Федароўскага "Беларускі народ" іх — 4500. У зборніках, якія давялося мне ўкладаць з сучасных запісаў, — каля 5000. У акадэмічным зборы "Беларуская народная творчасць" адно вясельных песень шэсць вялізных тамоў: па прыблізных падліках звыш 10000 песень! Толькі вясельных!.. І каля дваццаці тамоў усякіх іншых нашых народных песень — калядных, валачобных, купальскіх, жніўных, асенніх, баладных, любоўных, сямейных, бяседных, жартоўных... Тысячы, тысячы песень!.. І кожная з іх пелася. І безліч разоў. Іначай — не выжыла б, не засталася б, не дайшла б да нас. Гэта ж не верш, што мог быць напісаны і хоць яго ніхто не чытаў, але ён дзесьці захоўваўся і захаваўся да нашых дзён. У бібліятэцы, у архіве, у музеі. Фальклорная песня не так, як верш, нараджалася, не так уваходзіла ў жыццё і не так перадавалася наступным пакаленням людзей. Яна жыла, як жыве народны звычай, абрад, як жыве мова, як жыве само жыццё, — з болем і з радасцю, з плачам і смехам, натуральна і штодзённа...

На фоне ўсеагульнага захаплення архісучаснымі рытмамі, якое часам падобна на ўсеагульнае зацямненне свядомасці, гэта шчасце — ведаць, што ёсць незлічоныя скарбы народнай творчасці і ёсць мастацтва, якое на гэтай духоўнай глебе вырасла, і што ёсць людзі, таленавітыя спевакі і музыкі, якія шукаюць і знаходзяць крышталёва-празрыстыя струменьчыкі крынічнай вады, і пераконваюць нас, што гэтыя крыніцы — не высахлі, не сышлі-збеглі, не сцяклі ў бездань. У ліку такіх самародных талентаў — Валянціна Васілеўна Пархоменка, сапраўды народная артыстка ў дакладным значэнні гэтага слова. У чым сіла і абаяльнасць яе спеву, яе выканання народных песень? У надзвычайнай ступені роднасці з фальклорам, у арганічнасці выяўлення народнага духу, народнага характару, у свабодзе раскрыцця сябе, сваёй душы, якое ёсць і раскрыццё душы народа. Не прымусова, не

# Дазатары праўды

## РОЗДУМ ПРАВІНЦЫЯЛА ПРА СУЧАСНУЮ НАШУ ПРОЗУ

НА ГЭТЫ РОЗДУМ падштурхнула і падахвоціла мяне нечаканая сустрэча ў Мінску са знанымі нашымі пісьменнікамі Генрыхам Далідовічам, Янкам Сіпаковым і Адольфам Варановічам. Асабіста мне ад іх нічога не трэба было, хоць і сам маю нейкае дачыненне да літаратуры. Вось ужо 30 год аддаў журналістыцы, ёсць нейкае больш-менш упэўненае адчуванне і веданне літаратурнай і гутарковай беларускай мовы, але каб самому пракладваць свой шлях у мастацкую творчасць? Побач, як кажуць, навідавоку ў мяне шмат год працавалі ў ёй добрыя знаёмцы і суразмоўцы Уладзіслаў Рубанаў — аднакурснік-журфакавец, выдатны знаўца роднай мовы, на жаль, рана пайшоўшы з жыцця, Мікола Воранаў, Леанід Калодзежны, той жа Адольф Варановіч, Марыя Філіповіч. Заўсёды рады быў сустрэчам з іншымі пісьменнікамі — сталымі і пачаткоўцамі, з уважлівасцю і зацікаўленасцю слухаў тое, пра што гаварылі і разважалі яны ў побыце, у звычайным жыцці і што потым вырысоўвалася дазіраванай, урэзанай праўдай гэтага жыцця ў літаратурных выданнях (як тады казалі, крытыка — не вышэй узроўню брыгадзіра).

Меркавалася, што нешта істотнае скранулася ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў, калі здавалася: ну вось, нарэшце, большасць з нас зразумела незваротнасць перамен! Памятаю, як са старонак "Полымя" строгі і паважаны сярод пісьменнікаў літаратурны крытык Міхась Тычына ў 1992-ім узнёсла заявіў: "Стрэлка пісьменніцкага пошуку ў апошнія гады рушыла да адзнакі "Праўда", у тым ліку і ў жанры "малой прозы".

Пэўна, трошкі паспяшаўся з такой высновай крытык. У тым жа годзе Генрых Далідовіч скончыў раман "Заходнікі", які пазней вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. Дасведчаны чытач ведае і памятае, як доўга з "дапамогай" ужо цяперашніх дазатараў ПРАЎДЫ ён яе атрымоўваў.

Г. Далідовіч і сёння своеасаблівым шляхам ідзе да праўды жыцця. Напрыканцы леташняга года выйшла яго кніга апавяданняў "Жар кахання". Ацэньваць яе не бяруся, літаратурным вартасцям яе няхай даюць ацэнку чытачы і літаратурныя крытыкі. Проста хочацца шчыра парадавацца за пісьменніка з нагоды яго чарговай творчай удачы на шматпакутным шляху ў пошуку праўды. А вось радавацца за нашу цяперашнюю беларускую прозу ўвогуле штосьці замінае.

Нядаўна паспрабаваў выказацца на гэты конт на старонках "ЛіМа" крытык Алесь Бельскі ў артыкуле "Размаітасць фарбаў (Апавяданне-96: некалькі штрыхоў да партрэта жанру)". Варта, мусіць, прыслухацца да высноў, да якіх крытык прыйшоў: "Апавяданню, мусібыць, воляй лёсу суджана быць на галоўных пазіцыях літаратурнага працэсу, першаму па-мастацку перабудоўвацца, выжываць, распрацоўваць новыя радавішчы тэм, выходзіць на новыя прасцягі, а яшчэ — аператыўна выходзіць на дыялог з чытачом, нават змагацца за яго, бо ён, на вялікі жаль, сёння ў беларускага аўтара нешматлікі. Калі з леташніх "малых" рэчаў у актыве гісторыі літаратуры застанецца пяць ці дзесяць выдатных твораў, то год мінулы быў нямарны, а гэта значыць, што, не зважаючы ні на што, кожнаму з навелістаў трэба брацца за пяро і працаваць".

Вось такія ў нас цяпер сціплыя намеры (пяць-дзесяць важкіх твораў у год?!), не кажучы ўжо пра больш-менш вывераную дакладнасць, мэту таго, дзеля чаго і для каго яны напісаны.

Апавяданне — жанр, як кажуць, пад'ёмны, мабільны. З гэтай сваёй мабільнасцю яно здольнае разгарнуцца на старонках любой, нават невялічкай газеты — іх цяпер мноства і часам невядома, чым іх запоўніць. Толькі б не перашкаджалі, не накідвалі, як на коніка, аброць на пісьменніка, толькі б не выносілі скараспелых прыгавораў, а далі магчымасць служыць свайму асноўнаму прызначэнню.

А ці не такую ролю бярэ на сябе апошнім часам (што вельмі дзіўна!) пісьменнік Уладзімір Глушакоў. Працуе ён у часопісе "Беларуская думка". Скарыстаўшы гэтую трыбуну, даў ён нядаўна ў сваім артыкуле "Аракулы-дальтонікі" прачуханку не толькі нашым — Васілю Быкаву і Святлане Алексіевіч, але і расійскаму Віктару Астаф'еву. Усе мы людзі грэшныя, але ж не з такімі непрыхаванымі пагардай і сарказмам трэба лупцаваць сваіх калег па літаратурным цэху, ды яшчэ ў часопісе, які нават па сваёй назве павінен гарантаваць чытачу магчымасць выказвання і выяўлення (цяпер гэта ўжо бясспрэчна) размаітасці беларускай думкі. У. Глушакоў сцвярджае: "Я за ўвесь народ распінацца не буду — скажу пра сваіх землякоў-гарадчукоў, альшанцаў, хатамельцаў, тураўчан, да якіх выязджаю не госцем. Дык вось усе яны пераканаліся за гады вашага "дэмакратычнага" кіравання, што іх не выратуюць ніякія валютныя банкі і сусветныя суполкі з іхнімі гуманітарнымі падачкамі... Паляшук зразумеў, што спадзявацца заўсёды, якія б палітычныя вятры не дзьмулі, трэба толькі на сябе. Зрэшты, гэтаму правілу ён не змяняў ніколі. Таму ён сее жыта".

Зразумеў гэта апошняе (і далёка не ўсё яшчэ), спадар Глушакоў, не толькі паляшук. Шмат што яшчэ чалавеку трэба будзе зразумець, і перш за ўсё ў самім сабе. Варта толькі навучыцца, каб як след слухаць й прыслухоўвацца да чужога меркавання, нават тады, калі табе рэжа вуха ці падцягвае жывот.

Спашлюся на Святлану Алексіевіч, якую так недалюблівае У. Глушакоў. У маі яна дала інтэрв'ю газеце "Чырвоная змена" — "Я пішу гісторыю пачуццяў". Аказваецца, працуе над кнігай з крыху інтрыгуючай назвай "Цудоўны алень вечнага палявання". Нічога інтрыгуючага, аднак, у гэтым няма. Назва запазычана ў Аляксандра Грына, які некалі метафарычна выказаўся: "Каханне — гэта цудоўны алень вечнага палявання". І сама ж тлумачыць, чаму ўзялася за гэтую тэму. Яе ранейшыя кнігі былі пра тое, як людзі забівалі адзін аднаго, як яны паміралі, у што верылі, як заканчвалі самагубствам, калі былая вялікая краіна развальвалася. А зараз вось піша кнігу пра каханне — як кахалі мужчына і жанчына, дзе кожны расказвае сваю гісторыю.

Аднак лепей даць слова самой пісьменніцы: "Вы заўважалі, што раней людзі ўвесь час жылі, нібы на вуліцы, на заводзе, на працы. Вытворчыя раманы... Цяпер яны вяртаюцца да сябе, дадому, у сваё асабістае жыццё, да сваіх дзяцей. Павысіўся кошт уласнага жыцця. І для мяне вельмі важна зразумець чалавека ў гэтых адносінах. Зараз мы ўсе разам, і кожны ў адзіноце. Мы раўняемся на Еўропу. А Еўропа — гэта ўладкаваная краіна адзінокіх людзей. Там няма нашай агульнасці, калектыўнасці. Адзінота нам зусім не вядомая, а гэта ж дастаткова страшная рэч. Мы проста вымаўляем словы "Еўропа", "дэмакратыя", але ў нас яны не звязаны ні з якім вопытам. Гэтага вопыту няма ні ў нашых бацькоў, ні ў дзядоў, ні ў прадзедаў. Ёсць толькі ваеннае. Таму мы сумуем па чужым жыцці, цалкам не разумеючы яго, не ведаючы, што яго нельга перавезці сюды як швейцарскі або нямецкі шакалад. І мне цікава, як чалавек асвойвае гэту адзіноту, а яна непадзельная з гісторыяй, з развіццём цывілізацыі. Мне цікава жаданне чалавека стаць шчаслівым..."



Малюнак М. Гарэлавай.

І гэта пісьменніцы даецца, дарэчы, цяжка, што пацвярджае яшчэ адно інтэрв'ю — маскоўскай газеце "Известия". У яе запыталі: "Няпроста, напэўна, пісаць і казаць пра каханне, калі жыццё на Беларусі стала незвычайна складаным, палітыка ідзе не толькі папераздзе пачуццяў, але і розуму і нават здаровага сэнсу?" І вось што адказала на гэты конт С. Алексіевіч: "Гісторыя з журналістамі-шпіёнамі яшчэ раз даказала наша бяссілле. Інтэлігенцыя са сваёй работай проста не спраўляецца. Справа не ў Лукашэнку. Справа ў народзе, які падтрымлівае Лукашэнку. Мы, інтэлігенцыя, баімся ўлады. Народ баіцца хаосу без улады, што такое свабода — ён пакуль ведаць не ведае. У беларускага супраціўлення вялікі дэфіцыт людзей, накшталт Алеся Адамовіча, беларуса еўрапейскага ўзроўню. Сёння самае зневажальнае — наша пісьменніцкае бяссілле, а не тое, што дом Саюза пісьменнікаў забрала днямі Адміністрацыя прэзідэнта".

Спаслацца можна і на нялюбага У. Глушаковым знакамітага расійскага пісьменніка Віктара Астаф'ева. Чытаў нядаўна яго інтэрв'ю-перадрукоўку з расійскай газеты ў прэзідэнцкай "Советской Белоруссии", а крыху раней — артыкул у "Литературной газете". Як гэтага ні хацелася б калялітаратурным чыноўнікам, але вымушаны і яны прыслухоўвацца да разумных разваг чалавека, які пабачыў і нацярпеўся ў гэтым жыцці зашмат.

"Працэсы, якія зараз адбываюцца, спыніць нельга. Перавыберуць прэзідэнта, зменіцца ўлада, а працэс літаратурны, як воз, будзе ісці ўгору. І ў гэтым працэсе, у гэтай барацьбе народзіцца літаратура, нам яшчэ невядомая, — разважае ў артыкуле В. Астаф'еў. — Маё пакаленне павінна ўжо неўзабаве адцвісці, саступіць дарогу і, галоўнае, не заступаць, не тармазіць літаратурны працэс. Шляхі літаратуры заўсёды былі складанымі, яны не заўсёды паддаваліся розуму — гэта і ёсць тайна творчасці, тайна ўсяго. Грамадства павінна праяўляць цярплівасць да творчых людзей і калі не дапамагаць, дык хоць бы не перашкаджаць".

Бясспрэчна, пісьменнік, як ніхто іншы, здольны сёння паўплываць на надыход лепшага і больш змястоўнага нашага жыцця. Аднак спяшацца пісьменніку ў высновах і ацэнках не трэба, якое б гучнае ні было яго імя. І ў гэтым сэнсе не магу не згадаць Івана Шамякіна, як бы ні стрыножвала мяне колішняя вялікая павага да нашага знакамітага і тытулаванага пісьменніка. Вымушаны ўсё ж сказаць, што неяк не прываблівае мяне тое, што і як піша ён апошнім часам. Скараспела, сыравата, са спрошчанымі і надуманымі жыццёвымі канфліктамі, досыць схематычнай і не надта пераканаўчай абмалёўкай характараў (узяць хаця б аповесць "Палеская мадонна"). Здаецца, усё гладка, але незразумела — каму, дзеля чаго? Канечне ж, ён абараняе агульначалавечыя каштоўнасці, аднак, відаць, замінаюць славутаму пісьменніку, як спартсмену ў трайным скачку, заступы... у палітыку.

Драматызм нашай цяперашняй жыццёвай сітуацыі — у раз'яднанасці людзей, у тым, што быццам бы і жывуць пад адным дахам, а не знаходзяць дарогі адзін да аднаго. Праўда, яны ўжо з недаверам сустракаюць і любое чарговае, так бы мовіць, міфалагічнае ачмурэнне, хто б ні падкідваў ім яго з чарговымі ідэалагічнымі залпамі альбо апрацоўкамі паасобку. І гэта добра — значыць, чалавек пачынае жыць сваёй галавой.

І ўсё-такі якой жа будзе наша новая проза? Самі пісьменнікі выказваюцца на гэты конт мала. Адно можна зноў спаслацца на Міхася Тычыну: "Здаровы рэалізм", які некалі так любіў у творах сучаснікаў Кузьма Чорны, надае мастацкую вагу апавяданням тых, хто толькі выходзіць на сцяжыну літаратуры, але ўжо мае што сказаць. Маладыя літаратары асабліва чулыя да новых з'яў у жыцці, якія яны пакуль што ў асноўным толькі фіксуюць, не паглыбляючыся асабліва ў псіхалагічны або сацыяльны сэнс і духоўную перспектыву. Адбываецца пакуль што чыста колькаснае напаўненне літаратуры прозаю жыцця. Да якіх змен прывядзе гэты ўсё больш шырокі працэс, сёння цяжка ўявіць. Магчыма, на змену традыцыйнаму рэалізму прыйдзе літаратура "кавалкаў жыцця" на заходні манер або "чорны раман". Калі, вядома, беларускае слова з яго глыбока паэтычнымі і гуманістычнымі патэнцыямі здолее вытрываць цяжар жорсткай праўды пра чалавека, якім ён убачыўся ў канцы другога стагоддзя".

Гэта выказванне літаратурнага крытыка пяцігадовай даўнасці ("Полымя", 1992, N 2). Цікава, што змянілася, перайначылася ў нашым літаратурным і проста жыцці за гэты час? Здаецца, мы знайшлі ўжо мерку годнаму чалавечаму слову і ведаем цану языкачосу і пустабрэху, увогуле разумеем і разбіраемся, чаго мы хочам — усе разам і кожны паасобку, хаця і марудна да гэтага крочым. Ці ёсць літаратурны герой цяперашняга часу, імя якога стала б хадзячай назвай? У пэўнай меры адказ дае ў згаданым вышэй артыкуле ў "ЛіМе" Г. Далідовіч: "Заходнікі" закончаны ў 1992 годзе і якраз радкамі з мемуараў Кураглядава: "Не ведаю, што і як будзе далей, але веру: перабудова не ўдасца. Як бы мяне не папікалі, усё ж лічу цвёрда: нам не абысціся без Гаспадара, Моцнай Рукі і Дысцыпліны..." Апошняе пяцігоддзе, на жаль, паказала, што кураглядавы ў нас па-ранейшаму і ў сіле, і ў цане, намагаюцца рэанімаваць нялепшае былое, разбураць наш нацыянальны і дзяржаўны суверэнітэт, гістарычную памяць і сімвалы, мову і культуру, а гэтым самым па-ранейшаму не дапускаць, каб лік шчырых, сумленных, г. зн. лепшых большаў, каб як мага меней было Асоб, бо не будзе іх — не будзе і народа, а без народа не будзе і дзяржавы. Па-іхняму мы былі і павінны быць толькі рабсілай нарыхтоўчай канторы. І ў нас інквізітаршчына мае спрыяльную глебу! Як выказнікі і выказальнікі, нават не тоячыся, ва ўсю спраўляюць злыдухаў наказ. А мы???"

Сумны адказ і сумныя высновы. Выходзіць, што зноўку чакаць трэба, пакуль і нейкія кураглядавы нажывуцца, наядуцца, нап'юцца.

Гладкапіс, лакіроўка — справа ў нашым жыцці ўжо, згадзіцеся, невыносна абрыдлая. Хаця ў палітыцы і пошуках лепшай долі будзе яшчэ шмат розных выкрунтасаў і смяхоцця, аднак яны, пісьменнікі, павінны заставацца людзьмі высокага гарту і ўсіх, каго можна, весці да гэтай мяжы: людзьмі звацца! Бо ў літаратурным творы высокай годнасці трапнае мастацкае і публіцыстычнае слова-параўнанне заўсёды было як найбольш дакладны, ёмкі і эканамічны сродак характарыстыкі чалавека.

**Мікола МАРКЕВІЧ**
*г. Орша*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4843
Нумар падпісаны ў друк 22.1.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 342/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12